7 ліпеня 2017 | № 26 (540)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Загадкавыя лёсы беларускіх прыгажуняў
стар. 10

5 НІНА ШЫДЛОЎСКАЯ: «Я ЗРАЗУМЕЛА, ШТО АДЧУВАЛІ ЛЮДЗІ Ў 1937-М»

Шмат у чым дзякуючы гэтай неверагодна мужнай і прыгожай жанчыне фігуранты «справы патрыётаў» апынуліся на волі



7 «ГРОШЫ МАЮЦЬ УЛАСЦІВАСЦЬ ЗАКАНЧВАЦЦА, А НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ — НІКОЛІ»

Апошнія падзеі ў краіне, асабліва на Дзень Волі 25 сакавіка, калі тысячы людзей выйшлі на пратэст, паказалі, што ліквідаваць імкненне да волі, пагасіць нацыянальны патрыятызм у грамадстве немагчыма

9 ФАКТАР УДАЛЬЦОВА

Бліжэйшым часам у Расіі на свабоду выходзіць Сяргей Удальцоў — адзін з лідараў «балотнага руху», у якім шматлікія палітолагі бачаць новага лідара антыпуцінскай апазіцыі

11 155 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ПРЭСЕ

У першыя месяцы з'яўлення «Мужыцкай праўды» царская паліцыя амаль не звяртала на яе ўвагі



# «Агледзіны» ў КДБ?

## Усе патрыёты — на волі, але застаецца пытанне: «Што гэта было?»



Сяргей ПУЛЬША

Гэтыя падзеі, падаецца мне, пачаліся не падчас арыштаў, і нават не ў час знакамітай заявы Лукашэнкі пра «лагеры баевікоў» пад Асіповічамі і некалькі дзясяткаў тэрарыстаў, якія разгойдваюць нашу сінявокую стабільнасць. А значна раней — прыкладна год таму, калі Зміцер Дашкевіч з паплечнікамі капаў акопы паблізу беларуска-расійскай мяжы.

І «Малады фронт» з ягоным падраздзяленнем «Ваяр», і Міраслаў Лазоўскі, ці не адзіны адкрыты «легіёнавец», неаднойчы заяўлялі, што маюць намер бараніць незалежнасць Беларусі. Прычым, маюць такі намер незалежна ад таго, Лукашэнка ва ўладзе ці не. І, калі трэба, са зброяй у руках. А звярнуць увагу на летнікі клубу «Патрыёт», які дзейнічаў хоць і з дазволу ўладаў, але дэ-факта самастойна, сам Бог падказваў.

У выніку сілавікі ўзяліся за патрыётаў. Цікавая храналогія «пасадак — адсідак — вызваленняў». Пачалося з «легіёнаўцаў», потым пад раздачу трапілі чальцы «Патрыёту», потым «Ваяр» — «МФ». Вызваленне ж адбывалася ў адваротным парадку: «МФ» — «летнікаўцы» — «легіянеры».

Чаму так? Мажліва таму, што беларускі КДБ вырашыў правесці своеасаблівыя «агледзіны» беларускіх патрыятычных колаў, прычым, найбольш, на іх думку, радыкальных. Зразумела, ім, у КДБ, вельмі цікава ведаць, наколькі заявы пра «бараніць незалежнасць радзімы» адпавядаюць рэальнасці. Ці вытрымаюць гэтыя людзі, якія заявілі пра абарону незалежнасці, ціск альбо хаця б мінімальныя стрэсы і нязручнасці (пагадзіцеся, вайна ў гэтым плане будзе горшай за турму)? Наколькі хопіць іх перакананняў і стойкасці? З кім кадэбэшнікам альбо «сядзець у адным акопе» (калі гэта была ідэя па-незалежніцку арыентаванай часткі спецслужбоўцаў), альбо з кім давядзецца сутыкнуцца «русскому миру» ў выпадку прыходу ў Беларусь (калі прарасійскай часткі КДБ).

Тое, што апошнімі бралі «маладафронтаўцаў» і першымі іх выпусцілі, тлумачыцца проста. «МФ», яго чальцы, Зміцер Дашкевіч і іншыя напярэдадні даказалі сваю стойкасць і прыхільнасць ідэі вартай у Курапатах. Адзначым і таго самага Сяргея Пальчэўскага, які прыкуў сябе да машыны, каб не пусціць яе на тэрыторыю будоўлі. Таму з імі, збольшага, усё было зразумела.

Але праверыць усё роўна трэба было. Той жа Пальчэўскі па выхадзе з СІЗА КДБ шчыра прызнаўся, што пад ціскам падпісаў згоду на супрацоўніцтва з КДБ пад мянушкай «Артур». Тое, што ён падпісаў, і тое, што пра гэта распавёў, — прадмет асобнага аналізу, найперш, сярод псіхолагаў у КДБ.

Другімі «па выхадзе» былі арганізатары патрыятычнага летніка. Зразумела ж, спецслужбы цікавіла, на якой глебе, хто і як гартуе сённяшняе «маладое пакаленне». Да саміх маладзёнаў не дацягнешся, хаця б праз «працэдурныя пытанні» — усе допыты непаўнагадовых павінны праходзіць з бацькамі і адвакатамі. Дый арышт «шкалаты» — скандал вялікі. А вось паглядзець, ці можна супрацьпаставіць «патрыятычны» летнік летнікам таго ж «русского мира» (пра што шмат пісалі незалежныя СМІ), было варта. Як і падумаць, ці могуць нашы, айчынныя вайскова-выхаваўчыя летнікі замяніць лагеры «рускаміраўцаў», перацягнуць адтуль маладзёнаў у беларускую справу.

Апошнімі са следчых ізалятараў выходзіла самая «заканспіраваная» частка: тыя, хто меў дачыненне да «Белага легіёну» альбо падазраваны ў такім дачыненні. Паколькі «Легіён» у свой час быў адгалінаваннем Беларускага згуртавання вайскоўцаў, яго прыхільнікі выклікалі найбольшую ўвагу і цікаўнасць спецслужбаў.

Таму яны і ўтрымліваліся даўжэй за ўсіх. І былі пэўны час не проста ў СІЗА, а ў знакамітай «амерыканцы», — унутраным следчым ізалятары КДБ.




> КДБ было цікава, наколькі заявы пра «бараніць незалежнасць радзімы» адпавядаюць рэальнасці

Ці ўдаліся КДБ гэтыя «агледзіны»? Сказаць цяжка, зноў жа, гледзячы з якой мэтай яны праводзіліся. Калі сапраўды з мэтай «намацаць магчымых саюзнікаў», то, напэўна, так. Прынамсі, тыя фігуранты «справы патрыётаў», якія размаўлялі з журналістамі, на ўмовы ўтрымання ў СІЗА ці на нешта іншае не скардзіліся. А значыць, вытрымалі. І, верагодна, «прабеларуская» частка КДБ мусіць быць задаволеная: у выпадку чаго ў іх будуць вартыя саюзнікі. Калі мэтай было «пабачыць праціўніка», то, напэўна, яны ўпэўніліся, што словы пра «абарону незалежнасці» — не пусты гук.

Што да самой крымінальнай справы, то абвінавачванні ў падрыхтоўцы масавых беспарадкаў з яе фігурантаў знятыя. Застаўся толькі артыкул пра «стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання». А як ён проста здымаецца, мы ўжо пісалі: здача зброі, добраахвотнае спыненне ўдзелу ў арганізацыі — і вызваленне ад адказнасці.

Зброі як такой у справе няма, а «Белы Легіён» спыніў сваю дзейнасць яшчэ напачатку 2000-х. Высновы?

# Станіслаў Шушкевіч: Еўропа рада падманвацца

**Першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч пракаментаваў візіт высокіх гасцей з Еўрасаюза ў Беларусь.**

Нагадаем, у Мінск па запрашэнні АБСЕ прыехаў спецдакладчык ААН Міклаш Харашці. Ён возьме ўдзел у 26-й штогадовай сесіі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, якая праходзіць 5–9 ліпеня ў беларускай сталіцы.

Станіслаў Шушкевіч пракаментаваў пазіцыю ПА АБСЕ:

— Тое, што сесія Парламенцкай Асамблеі АБСЕ пройдзе ў Мінску, гэта добра. Усё ж такі нам трэба падтрымліваць добрыя стасункі з Захадам. Іншая справа, Еўропа лічыць, што сёняшні беларускі рэжым можна перавыхаваць, але, як мне падаецца, гэта ім зрабіць не ўдасца. Хаця, безумоўна, еўрачыноўнікі пачуюць у Мінску тое, што хочуць пачуць, — рыторыкі ў беларускіх уладаў не займаць, а за словы расплачвацца не трэба. Пры гэтым змены палітычнага курса ніхто так і не дачакаецца. Але здзіўляцца не варта — Еўропа наступала на старыя граблі шмат разоў і рада падманвацца. Еўрапейцы мяне даўно ўжо не здзіўляюць. А ўлады адкрытым тэкстам кажуць — ніякіх зрухаў у паляпшэнні правоў чалавека не будзе. Мабыць, не трэба на гэтым спекуляваць.

***— Але можа ўсё ж такі варта чакаць нейкіх практычных вынікаў пасля візіту ў Мінск высокіх еўрапейскіх гасцей?***

— ААН паступіла лепш — яна захавала спецдакладчыка па Беларусі. Але ён не патрэбен, калі ў краіне адбываюцца змены ў накірунку правоў чалавека і дэмакратыі. Таму ААН паказвае прыклад нармальнай рэакцыі міжнароднай супольнасці. А Еўропа вырашыла пагуляцца ў геапалітыку.

***— На ваш погляд, фігурантаў «справы патрыётаў» спецыяльна выпусцілі з турмаў напярэдадні сесіі Парламенцкай Асамблеі?***

— У гэтым няма сумненняў, бо хлопцам маглі «прышыць» што заўгодна пасля тых паклёпаў, што гучалі ў іх адрас па тэлебачанні і з вуснаў адказных асоб. Таму вызваленне хлопцаў, як мне падаецца, адзіны станоўчы вынік міжнароднага парламентаўства, якое пройдзе ў Мінску.

**Кастусь Заблоцкі, Беларускае Радыё Рацыя**

# Вызваліць усіх палітвязняў!

Арцём ЛЯВА

**Форум «Свабоду палітвязням» прыняў зварот з патрабаваннем вызваліць 10 чалавек, якія несправядліва пакараныя пазбаўленнем волі.**

Адозва з патрабаваннем спыніць палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі будзе накіраваная дэпутатам Парламенцкай асамблеі АБСЕ, у Камітэт па палітычных пытаннях і дэмакратыі Савета Еўропы, спецдакладчыку ААН па правах чалавека Міклашу Харашці і пасольствам замежных краін.

Удзельнікі пасяджэння Форуму не хаваюць, што прымеркавалі падпісанне заявы да сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ, якая адбывалася ў Мінску, каб максімальна павялічыць шанцы быць пачутымі. На іх думку, еўрачыноўнікі не павінны заплюшчваць вочы на рэпрэсійныя дзеянні ў дачыненні да актывістаў, ахвяраваць дэмакратычнымі каштоўнасцямі дзеля наладжвання дыялогу з беларускімі ўладамі.

Паводле заявы Форума «Свабоду палітвязням», зыходзячы з крытэрыяў ПАСЕ, палітвязнямі таксама з'яўляюцца Міхаіл Жамчужны, Зміцер Паліенка (першых двух афіцыйна прызнаюць беларускія праваабаронцы), Алесь Юркойць, Тарас Аватараў, Аляксей Жалноў, Ілля Валавік, Зміцер Цехановіч, Ірына Моцная, Вадзім Бойка і Філіп Іваноў.

Таксама аўтары дакумента нагадваюць, што крымінальныя справы ў адносінах да патрыётаў, якіх напрыканцы чэрвеня вызвалілі пад падпіску аб нявыездзе, не спыненыя.

У заяве вылучана патрабаванне поўнага і неадкладнага вызвалення ўсіх палітзняволеных ды спынення іх крымінальнага пераследу.

Таксама ў заяве ўтрымліваецца просьба да дэпутатаў ПА АБСЕ і ПАСЕ ўзяць пад больш пільны кантроль сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі.

Падпісалі заяву ўсе ўдзельнікі чарговага пасяджэння Форума «Свабоду палітвязням», сярод якіх былі Ганна Шапуцька, Вольга Мікалайчык, Святлана Каваленка, Максім Вінярскі, Кацярына Садоўская, Мікола Бамбіза, нядаўна вызвалены фігурант «справы патрыётаў» Сяргей Стрыбульскі, а таксама Людміла Поспех (маці пакарана за актыўную падтрымку Украіны Тараса Аватарава, якому падкінулі ў рэчы муляж гранаты), Раіса Валавік (маці футбольнага фаната-антыфашыста Іллі Валавіка, асуджанага за бойку), Яўгенія Жалнова (маці Аляксея Жалнова, якому інкрымінавалі збіццё міліцыянта, а фактычна пакаралі за змаганне з міліцэйскім бязмежжам) ды іншыя.

Удзельнікі пасяджэння абмяркоўвалі магчымасці ўплыву на ўладу з тым, каб яна мінімізавала, а ў ідэале — адмовілася ад рэпрэсій. «Замежнікі нам кажуць адкрытым тэкстам: «Мы не чуем заяваў пра тое, што ў Беларусі ёсць палітвязні». Патрэбныя публічныя заявы пра наяўнасць палітвязняў на плошчах гарадоў!» — выказаў перакананне Максім Вінярскі. Іншае меркаванне: непад'ёмныя штрафы не дазваляюць прымаць удзел у несанкцыяваных публічных акцыях.

Прысутныя ўрэшце пагадзіліся ад імя Форума «Свабоду палітвязням» падтрымаць ідэю правядзення 7 ліпеня а 18-й гадзіне акцыі салідарнасці з палітвязнямі, якую ініцыюе Максім Вінярскі. Таксама на пасяджэнні прынятае рашэнне арганізаваць цягам месяца прэс-канферэнцыю са сваякамі несправядліва асуджаных, а пасля зладзіць круглы стол на тэму пераследу антыфашыстаў і міжнародную канферэнцыю, прысвечаную праблеме палітычнага пераследу ў Беларусі.

# Чаму варта рэабілітаваць Ларысу Геніюш?

**Моладзь БНФ працягвае кампанію ўшанавання памяці беларускай пісьменніцы і грамадскай дзяячкі. Чарговым крокам стаў конкурс эсэ «Чаму варта рэабілітаваць Ларысу Геніюш?».**

«Рэабілітацыя Ларысы Геніюш для цябе не проста фармальнасць? Хочаш выказаць сваю падтрымку кампаніі Геніюш2016? Прымі ўдзел у конкурсе эсэ ад Моладзі БНФ!» — заклікаюць ініцыятары кампаніі.

Геніюш2016 — кампанія Моладзі БНФ па рэабілітацыі беларускай пісьменніцы і грамадскай дзяячкі Ларысы Геніюш, распачатая яшчэ ў 2016 годзе.

Не так даўно актывісты арганізацыі накіравалі ў Генпракуратуру Беларусі пісьмовае патрабаванне рэабілітаваць літаратарку. Адказ затрымаўся, а вынік апынуўся нездавальняючым: «Геніюш Л.А. прызнана не падлеглай рэабілітацыі».

Конкурс эсэ — гэта наступны крок у спробах дамагчыся рэабілітацыі, данесці прадстаўнікам уладаў меркаванне грамадзян і паказаць, што гэта сапраўды важна нашаму народу.

Актывісты Моладзі БНФ лічаць, што Ларыса Геніюш вартая аднаўлення яе добрага імя і ўшанавання памяці.

Калі вам таксама неабыякава памяць і гонар выбітнай беларускі, і вы жадаеце падзяліцца сваімі думкамі наконт таго, чаму рэабілітацыя Ларысы Геніюш такая важная падзея для беларускага народа, дасылайце свае эсэ на пошту Моладзі БНФ moladzbelarus@gmail.com.

Аб'ём тэксту — каля 3-х старонак фармату А4. Тэма гучыць так: «Чаму варта рэабілітаваць Ларысу Геніюш?»

Конкурс працягнецца з 3 ліпеня па 26 ліпеня, вынікі будуць падведзены 10 жніўня.

Кожны ўдзельнік атрымае памятны дыплом і кнігу Ларысы Геніюш «Споведзь», а пераможца — файную нямецкую пер'евую асадку фірмы «Lamy»!

**Паводле прэс-службы Моладзі БНФ**

# Сітуацыя з правамі чалавека пагаршаецца

Генадзь КЕСНЕР

**Падзеі, якія пачаліся ў 2014 годзе і цягнуцца дагэтуль, прывялі да развіцця найгоршай сітуацыі ў рэгіёне АБСЕ ў ваенна-палітычным і чалавечым вымярэннях усеагульнай бяспекі з моманту падпісання Хельсінскага пагаднення.**

Да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі Паралельнага форума грамадзянскай супольнасці АБСЕ, які прайшоў у Мінску 4 ліпеня, напярэдадні 26-й штогадовай сесіі парламенцкай Асамблеі АБСЕ.

Арганізатарамі Паралельнага форума, у якім узялі ўдзел прадстаўнікі 60 беларускіх няўрадавых арганізацыяў з Беларусі, 25 няўрадавых арганізацыяў з іншых краінаў, а таксама госці з Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, БДІПЧ ды іншых структур АБСЕ, замежныя дыпламаты, выступілі Асамблея няўрадавых арганізацыяў Беларусі, Беларуская асацыяцыя журналістаў, Беларускі Дом правоў чалавека імя Барыса Звозскава, Праваабарончы цэнтр «Вясна», Беларускі Хельсінскі камітэт, Цэнтр прававой трансфармацыі Lawtrend, а таксама Платформа грамадзянскай салідарнасці.

Па словах старшыні ПЦ «Вясна» Алеся Бяляцкага, гэты форум — унікальнае мерапрыемства, якое адбылося ўпершыню за 13 гадоў. Ён сабраў беларускіх праваабаронцаў з розных рэгіёнаў і розных праваабарончых арганізацыяў, актывістаў грамадзянскай супольнасці, каб напярэдадні сесіі ПА АБСЕ, што пройдзе ў Мінску, у поўны голас заявіць пра праблемы, якія існуюць з правамі чалавека ў беларускім грамадстве.

Напярэдадні форума беларускія праваабаронцы вызначылі шэраг праблем, што існуюць у Беларусі з правамі чалавека, асноўныя з якіх і пералічыў Бяляцкі. Гэта наяўнасць палітзняволеных, смяротнае пакаранне, масавыя рэпрэсіі, якія абрынуліся на людзей у Беларусі гэтай вясной і якія закранулі грамадскіх актывістаў, журналістаў, праваабаронцаў.

«Гэта сістэмныя парушэнні правоў чалавека ў Беларусі, і мы звяртаемся да беларускіх уладаў, адзначаем, што не адбываецца ніякіх сістэмных зменаў для паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека. У любы момант сітуацыя можа стаць яшчэ горшай», — адзначыў кіраўнік «Вясны». Ён таксама звярнуў увагу на адсутнасць на Форуме прадстаўнікоў беларускіх уладаў, «што яшчэ раз падкрэслівае іх нежаданне сесці за стол перамоваў для абмеркавання надзённых праблемаў, якія існуюць у Беларусі».

Прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці і праваабаронцы звяртаюцца да ўдзельнікаў сесіі ПА АБСЕ з заклікам нагадаць беларускім уладам, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца сябрам гэтай арганізацыі і мусіць выконваць пагадненні ў галіне правоў чалавека, да якіх яна далучылася.

На Форуме прысутнічаў і спецдакладчык ААН па Беларусі Міклаш Харашці, хоць беларуская ўлады не прызнаюць ягонага статуса, а ў нашай краіне ён знаходзіцца як эксперт па запрашэнні АБСЕ.

Па выніках паралельнага форума яго ўдзельнікі прынялі рэзалюцыю, з якой будуць азнаёмлены ўдзельнікі мінскай сесіі ПА АБСЕ. Дакумент складаецца з дзвюх частак. Першая тычыцца сітуацыі з правамі чалавека і грамадзянскай супольнасці ў рэгіёне АБСЕ, а другая — непасрэдна Беларусі.

Рэзалюцыя ўтрымлівае шэраг рэкамендацый да шырокай міжнароднай грамадскасці і структураў АБСЕ. Сярод якіх — прапанова Еўрапейскаму Саюзу прыняць і абнародаваць план мінімальных захадаў, што чакаюцца ад ураду Беларусі для дасягнення прагрэсу ў галіне правоў чалавека, і распрацаваць сумесна з уладамі Беларусі дарожную мапу выканання такога плана. Апроч таго, міжнародная супольнасць мусіць прызнаць незалежную грамадзянскую супольнасць Беларусі ў якасці ключавога ўдзельніка дыялога з Беларуссю і ўключыць беларускую праваабарончую супольнасць як роўнага партнёра ў гэты працэс разам з урадам.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# «Саюз непарушны» для каго?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мне заўсёды падавалася, што ўсялякія эканамічныя зоны, саюзныя дзяржавы і іншыя «саюзы» павінны не толькі цешыць самалюбства кіраўніцтва, а яшчэ і спрашчаць жыццё звычайным людзям.**



Фота www.rusnation.org

Узяць, да прыкладу, Еўразаюз. Там увялі «шэнген», свабоднае перасоўванне працоўнай сілы, два тыдні таму адмянілі роўмінг… Гэты саюз для мяне зразумелы — у ім усё больш робіцца для палягчэння жыцця грамадзян.

А зараз возьмем Еўразійскі эканамічны саюз і «Саюзную дзяржаву» Беларусі і Расіі. Памятаеце, колькі непрыемнасцяў нашым прадпрымальнікам дадалі «еўразійскія» сертыфікаты на прадукцыю? Літаральна паставілі іх на мяжу выжывання. І чым далей, тым болей.

Днямі з'явіўся новы бар'ер. З 1 ліпеня ў ЕАЭС пачалі дзейнічаць так званыя «Адзіныя каранцінныя фітасанітарныя патрабаванні, што прад'яўляюцца да падкаранціннай прадукцыі і падкаранцінных аб'ектаў на мытнай мяжы і на мытнай тэрыторыі ЕАЭС». Гэты дакумент рэгламентуе ўвоз на тэрыторыю ЕАЭС прадукцыі расліннага паходжання нібыта для таго, каб не дапусціць з'яўлення ў краінах Саюза розных шкодных раслінаў (у тэрміналогіі патрабаванняў — каранцінных аб'ектаў).

Але пад забарону патрапілі чамусьці не шкодныя расліны, а харчы. З 1 ліпеня на тэрыторыю ЕАЭС (а значыць, і ў Беларусь) можна будзе завезці без дакументаў не больш за 5 кілаграмаў «падкаранціннай прадукцыі», прычым гэтая лічба — агульная вага ўсёй такой прадукцыі. То бок, калі вы з Украіны вязеце адзін кавун масай у 6 кілаграмаў, вам давядзецца яго з'есці проста на мяжы. Альбо атрымліваць на яго сертыфікат.

У суцяшэнне можна прыхапіць не больш за тры букеты кветак. Праўда, гэта будзе не «мільён пунсовых ружаў», а не больш за 15 штук.

Норма ў 5 кілаграмаў распаўсюджваецца практычна на ўсё, што расце на зямлі: ад бульбы і цыбулі да грыбоў, арэхаў, вінаграду, кавуноў і дыняў. Іншымі словамі, у пералік уваходзіць практычна ўся гародніна, садавіна, ягады, зеляніна і іншыя тавары расліннага паходжання.

Праўда, забарона не распаўсюджваецца на каву смажаную, чай чорны і зялёны, матэ, вострыя прыправы, прыправы змешаныя, жалуды, конскія каштаны.

Можна хаця б каву… Але пра агульную вагу ў 5 кілаграм забывацца не трэба.

Паніку на тыдні ўзнялі і некаторыя СМІ. Яны заўважылі на сайце расійскага Федэральнага партала праектаў нарматыўных прававых актаў праект указа, які тычыцца новых правілаў рэжыму ў памежнай зоне Расіі. У дакуменце сказана, што з 1 кастрычніка 2017 года беларусы будуць уязджаць у памежную зону па спецыяльным пропуску і дакуменце, які пацвярджае асобу.

Праўда, Дзяржпагранкамітэт Беларусі ўважліва пачытаў гэты дакумент і патлумачыў, што, згодна з падпунктам «г» пункта 2 праекта: «Уезд (праход) у памежную зону па дакументах, якія сведчаць асобу, ажыццяўляецца грамадзянамі Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь у памежную зону, усталяваную ўздоўж расійска-беларускага ўчастка дзяржаўнай мяжы». То бок, якіх-небудзь пропускаў для грамадзян Беларусі не прадугледжваецца, а «інфармацыя, распаўсюджаная рознымі крыніцамі ў сетцы інтэрнэт, пра тое, што «беларусы будуць уязджаць па спецпропусках у памежную зону з боку Расіі з 1 кастрычніка», не мае пад сабой падстаў».

Не ведаю, што там маецца, а што не, але ці будзе расійскі памежнік разбірацца ў нюансах кшталту «падпункта «г»? Мне чамусьці падаецца, што наўрад ці. І таму можна чакаць інцыдэнтаў з затрыманнямі нашых грамадзян у памежнай зоне Расіі.

Вось табе і ЕАЭС, і Саюзная дзяржава, і вольнае перасоўванне. Можа быць, у глабальным плане мы і маем нешта з гэтых «саюзаў», але будзем шчырыя — для простага чалавека жыццё лягчэйшым не становіцца. Паўнавартасная мяжа была б лепшай — прынамсі, не было б блытаніны, трэба нам спецпропускі ў Расію, ці ўсё ж пункт «г» спрацуе.

На тыдні з'явілася інфармацыя пра тое, што кошты на нерухомасць у Мінску дасягнулі мінімуму за дзесяцігоддзе. Падавалася б, добра, але насамрэч гэта азначае, што ў народа няма грошай на куплю жытла. Між тым, жыллёвае будаўніцтва з'яўлялася адным з флагманаў нашага эканамічнага росту. Бачна, заўважыўшы гэтую тэндэнцыю, Аляксандр Рыгоравіч падпісаў новы ўказ аб адрасным субсідаванні ў жыллёвым будаўніцтве.

Дзяржаўныя субсідыі будуць прадстаўляцца на выплату часткі працэнтаў за карыстанне крэдытамі на будаўніцтва жылля, атрыманых грамадзянамі ў любым камерцыйным банку, а шматдзетным і маладым сем'ям і дзецям-сіротам — таксама на пагашэнне часткі асноўнага доўгу па такіх крэдытах. Пры гэтым дзяржаўная падтрымка ў выглядзе льготных крэдытаў і субсідый захаваецца.

Як заўсёды, узнікае пытанне: а ці ёсць у нас на гэта грошы? Альбо на гэта пойдзе той транш крэдыту, які мы атрымалі тыдзень таму ад Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця, — 300 мільёнаў долараў?

Дарэчы, пра крэдыт. У той час, калі мы працягваем спадзявацца на грошы ад усялякіх МВФаў ды іншых фондаў, адмыслоўцы кажуць, што мы ў сваёй «закрэдытаванасці» набліжаемся да небяспечнай рысы. Адна цытата: «У нас ёсць пэўныя ліміты, чырвоныя сцяжкі, выходзіць за якія вельмі непажадана. Такім лімітам з'яўляецца ўзровень дзярждоўгу ў 45% да ВУП. Пакуль мы да гэтай планкі не дабраліся, але чакаецца, што мы дойдзем да гэтага паказчыка ў канцы 2017 — пачатку 2018 года. У той жа час у 2018-м, пасля пагашэння еўрабондаў, гэты паказчык можа зноў знізіцца. Але ў любым выпадку мы блізкія да рысы ў 45% ВУП, а гэта значыць, што праводзіць далей палітыку актыўнага запазычвання больш нельга, і неабходна актыўна зніжаць узровень дзярждоўгу. Мы зараз павінны штогод рэфінансаваць менш, чым пагашаць».

Гэта сказаў не нейкі там «апазіцыйны» эканаміст. Пра гэта на форуме «Беларусь у пастцы павольнага росту» заявіў першы намеснік міністра фінансаў Рэспублікі Беларусь Максім Ермаловіч.

Пагашаць гэты дзярждоўг плануецца за кошт бюджэту. То бок, з нашых з вамі падаткаў. І вы ўсур'ёз верыце, што ў нас ёсць грошы на субсідаванне будаўніцтва?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Алег Волчак

**У залі суда ў праваабаронцы здарыўся гіпертанічны крыз, але гэта не перашкодзіла суддзі аштрафаваць яго на 585 рублёў.**

Гэта быў ужо трэці разгляд справы Алега Волчака за ўдзел у «Маршы недармаедаў» 17 лютага. Раней яму прысудзілі 13 сутак адміністрацыйнага арышту завочна. Волчак падаў скаргу, і Мінскі гарадскі суд накіраваў справу на дадатковае расследаванне, бо міліцэйскі пратакол не быў падпісаны супрацоўнікам міліцыі.

Суддзя Фрунзенскага раёна Яўген Пісарэвіч адхіліў хадайніцтва Волчака даць адвод сакратару суда, якая рассылала паведамленні на тэлефоны яго сяброў, запрашаючы ў суд. Таксама суд адхіліў і сведкаў абароны, якія павінны былі засведчыць, што Волчак падчас «правапарушэння» знаходзіўся ў не тым месцы, якое названае ў пратаколе. На чацвёртай гадзіне разгляду справы Волчаку стала дрэнна, і ён выступіў з хадайніцтвам, каб пасяджэнне перанеслі і выклікалі яму хуткую дапамогу. І гэтае хадайніцтва было адхіленае.

Калега Волчака Андрэй Бандарэнка пачаў настойваць, каб выклікалі медыкаў, і суддзя выдаліў Бандарэнку з залі. Той усё ж выклікаў хуткую дапамогу. Медыкі паставілі Волчаку дыягназ — гіпертанічны крыз, і завезлі яго ў шпіталь хуткай медычнай дапамогі. Аднак усё гэта не перашкодзіла суддзі накласці на Волчака штраф.



## Міклаш Харашці

**Спецдакладчык ААН па правах чалавека па Беларусі ўсё ж здолеў наведаць Мінск.**

Нагадаем, што дакладчыкам ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі Харашці быў абраны ў 2012 годзе. Але беларускія ўлады не прызнаюць яго мандат і не супрацоўнічаюць з ім. Тым не менш, ён прыехаў у краіну для ўдзелу ў сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ як эксперт па правах чалавека.

Харашці выступіў 4 ліпеня на форуме грамадзянскай супольнасці «Шэсць гадоў пасля дакладу ў рамках Маскоўскага механізму АБСЕ аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі: што змянілася?». Ён канстатаваў паслабленне ціску на праваабаронцаў, але «зацішша» лічыць часовым. «На дадзены момант мы знаходзімся ў больш спакойнай палітычнай сітуацыі. Але не трэба блытаць гэта з прынцыпам [уладамі] сістэмных каштоўнасцяў і сістэмных гарантый [у сферы правоў чалавека]», — сказаў Харашці, якога цытуе «Еўрарадыё».

Таксама ён падзякаваў беларускім праваабаронцам за «жорсткую пазіцыю» і за тое, што яны працягваюць удзельнічаць у палітычным працэсе, нягледзячы на перасled.

Харашці выказаў надзею ў наступны раз прыехаць у Мінск менавіта ў якасці спецдакладчыка ААН, а не ў якасці простага эксперта.



## Анатоль Ісачэнка

**На месца былога губернатара Мінскай вобласці Сямёна Шапіры прыйшоў памочнік Лукашэнкі, інспектар па Мінскай вобласці.**

Анатоль Ісачэнка нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Каваль Клінцоўскага раёна Бранскай вобласці (Расія). У 1988 годзе скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, у 2005-м — Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Пачынаў кар'еру ў калгасе «Савецкая Беларусь» у Горацкім раёне Магілёўскай вобласці на пасадзе старшага інжынера.

У 2000 годзе Ісачэнку прызначылі дырэктарам саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна. Таго самага, адкуль на прэзідэнцтва прыйшоў Лукашэнка.

Выглядае, што працай Ісачэнкі ў саўгасе былі задаволеныя, паколькі ўжо праз два гады яго забралі першым намеснікам старшыні Шклоўскага райвыканкама. З 2008 па 2014 год ён быў намеснікам старшыні Магілёўскага аблвыканкама, у 2014–2016 гадах — старшынёй Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў.

У снежні 2016 года Ісачэнку перакінулі на Мінскую вобласць. Ён стаў памочнікам кіраўніка дзяржавы па гэтым рэгіёне. Такім чынам, ён адпрацаваў у Мінскай вобласці ўсяго сем месяцаў перад тым, як стаць губернатарам.

# Пагрукацца ў вароты «Драздоў»



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Сёлета будзе ўжо 23 гады, як на пасадзе прэзідэнта краіны знаходзіцца адзін і той жа чалавек. Іншаму б надакучыла... Аднак 2020 год не за гарамі, і хто яго ведае, можа ў вароты рэзідэнцыі першай асобы краіны нарэшце ўедзе новы гаспадар? Хто гэта будзе? Мы паспрабуем прааналізаваць шанси і магчымасці некаторых патэнцыйных кандыдатаў. І пачынаем друкаваць серыю артыкулаў пад агульнай назвай «Пагрукацца ў вароты «Драздоў».**

## Спіс адкрыты

Такія лідары апазіцыі, як Уладзімір Някляеў (71 год), Аляксандр Мілінкевіч (69 гадоў), Сяргей Гайдукевіч (62 гады), Мечыслаў Грыб (79 гадоў), Сяргей Калякін (65 гадоў), Мікалай Статкевіч (60 гадоў) — усе яны да 2020 года будуць ужо не ў той форме, каб весці дынамічную і цяжкую выбарчую кампанію, а ў выпадку абрання — узначаліць не менш дынамічныя змены. Да таго ж іх усё больш падціскае маладое пакаленне палітыкаў — людзей, якія маюць не толькі ўласныя амбіцыі, але і досыць вострыя зубы.

Аднак моладзь, якая прыходзіць цяпер, не мае за сабой самавітай біяграфіі. Тым больш — біяграфіі поспеху. Гэта будзе страчанае апазіцыйнае пакаленне, якое не мае досведу дзяржаўнага кіравання і не мае досведу рэальнай сур'ёзнай эканамічнай дзейнасці. Застаецца надзея на тое, што новая апазіцыя сфармуецца ў дзяржаўным апараце, паколькі гаворка ідзе ўжо аб вельмі сталым веку прэзідэнта. Можа, Аляксандр Рыгоравіч усё яшчэ не стаміўся, але дзяржапарат стаміўся ад яго ані не ў меншай ступені, чым усе астатнія, а знешнія рэсурсы падтрымкі практычна вычарпаныя. Аднак пяройдзем да разгляду кандыдатур.

Пакуль у нашым спісе 19 чалавек, прозвішчы якіх мы, верагодна, зможам убачыць у выбарчых бюлетэнях у 2020 годзе. Гэта Аляксандр Лукашэнка, Віктар Лукашэнка, Уладзімір Макей, Алесь Лагвінец, Алег Гайдукевіч, Андрэй Дзмітрыеў, Таццяна Караткевіч, Павал Латушка, Аляксей Янукевіч, Вольга Карач, Павал Севярынец, Віктар Цярэшчанка, Анатоль Лябедзька, Ганна Канапацкая, Алёна Анісім, Юрась Зянковіч, Аляксандр Мех, Мікалай Статкевіч, Юры Губарэвіч.

Гэтыя людзі альбо раней адкрыта заяўлялі аб сваіх прэзідэнцкіх амбіцыях (і нават балатаваліся), альбо найболей відавочныя патэнцыйныя кандыдаты. Пры складанні аналітычнага агляду мы паспрабавалі звесці да мінімуму яго суб'ектыўнасць. Адпаведна, у ім прадстаўленыя толькі вядомыя факты, цытаты і відавочныя ацэнкі.

Кандыдатуры мы разглядаем у абсалютна выпадковым парадку, так што аматарам канспіралогіі не варта вышукваць нейкія ўзаемасувязі і ўтоеныя сэнсы.

І апошняе. Калі вы, нашы чытачы, лічыце, што ў гэтым спісе яшчэ кагосьці не хапае, пішыце нам. Мы абавязкова разгледзім вашы прапановы.

## Алесь Лагвінец

Экс-намеснік кіраўніка руху «За Свабоду», кіраўнік новай ініцыятывы «Дзея», 45-гадовы Лагвінец нарадзіўся ў Хойніцкім раёне Гомельскай вобласці. Яго сваяк, бізнесовец Віктар Лагвінец, уваходзіў у каманду Аляксандра Лукашэнкі, сябраваў з адыёзным кіраўніком Упраўлення справамі прэзідэнта Іванам Ціцянковым. У 1999 годзе Віктара Лагвінца арыштавалі, адначасна канфіскаваўшы маёмасць. Правёўшы ў турме паўгода, ён збег у Маскву.

Сам Алесь Лагвінец у 1995 годзе яшчэ толькі скончыў БДУ, дзе атрымаў дыплом адмыслоўца па міжнародных адносінах. У 1999-м атрымаў дыплом магістра паліталогіі ва Універсітэце Роберта Шумана (Страсбург, Францыя). З тых часоў працаваў выкладчыкам, таксама быў перакладчыкам у Еўрапарламенце.

Чатырохразова (у 2004-м, 2007-м, 2008-м і 2010-м) балатаваўся ў дэпутаты розных узроўняў. З лютага 2007-га па кастрычнік 2012-га — дарадца Аляксандра Мілінкевіча, пазней — яго намеснік.



Фота Дзмітрыя Русака

По меркаванні шмат якіх назіральнікаў, Алесь Лагвінец, напэўна, паспрабуе прыняць удзел у выбарах 2020 года. Разумны, адукаваны, амбіцыйны, нацыянальна-арыентаваны беларускі інтэлігент. Пры гэтым яго, нягледзячы на маладосць, можна аднесці да кансерватараў. Магчымым недахопам Лагвінца можа стаць адсутнасць рэальнага досведу дзяржкіравання, а таксама адсутнасць за ім якой-небудзь маштабнай палітычнай структуры і, адпаведна, фінансавых плыняў.

## Алег Гайдукевіч

Адзін з двух сыноў цяперашняга кіраўніка беларускіх ліберал-дэмакратаў Сяргея Гайдукевіча. Сёння 40-гадовы



Фота www.regnum.ru

Алег — адзін з кіраўнікоў партыі ЛДПБ (намеснік бацькі), раней (да верасня 2012 года) кіраваў РУУС Фрунзенскага раёна Мінска — найбуйнейшым РУУС у Беларусі. Пакінуўшы службу ў міліцыі, у адным з першых інтэрв'ю ён сказаў: «Я лічу, што палітычная дзейнасць дае чалавеку магчымасць рэалізавацца значна ў большай ступені, чым у органах унутраных спраў». Праз год у іншым інтэрв'ю Алег Гайдукевіч прызнаўся, што ў яго таксама ёсць прэзідэнцкія амбіцыі. «Алег Сяргеевіч будзе вылучацца ў прэзідэнты, але не ў 2015 годзе. У мяне ёсць прэзідэнцкія амбіцыі, я шмат чаго хачу дасягнуць», — сказаў ён.

12 жніўня бягучага года адбудзецца з'езд ЛДПБ, на якім кіраванне партыяй пяройдзе ад Гайдукевіча-старэйшага да Алега. Гэта і стане першым



этапам на шляху да ўдзелу ў прэзідэнцкай гонцы. Пакуль жа ў партыі менавіта Алег Гайдукевіч займаецца большасцю арганізацыйных пытанняў — у прыватнасці, адкрывае новыя офісы партыі. Пры асабістых зносінах ён робіць уражанне чалавека больш спакойнага і ўраўнаважанага, чым Сяргей Гайдукевіч. Але вось ці пераняў ён ад бацькі здольнасць мысліць стратэгічна — тое пакуль невядома.

## Андрэй Дзмітрыеў і Таццяна Караткевіч

Як сукіраўнікі «Гавары праўду» падзеляць паміж сабой прэзідэнцкія амбіцыі ў 2020 годзе — пакуль загадка. Андрэй Дзмітрыеў сваіх прэзідэнцкіх амбіцый асабліва не хавае. Больш таго, у адным з інтэрв'ю «Беларускаму партызану» ён прызнаўся, што марыць стаць прэзідэнтам Беларусі з 14 гадоў. А ў апошнія гады, працуючы ў «Гавары праўду» ў кааліцыі «Народны рэферэндум», Андрэй Дзмітрыеў зарабіў рэпутацыю сапраўднага «бульдозера», які прызвычаіўся дамагацца свайго любымі метадамі. З іншага боку, Дзмітрыеў мае далёка не лепшы імідж у асяроддзі апазіцыі — у прыватнасці, што яго вінавацяць у тым, што ён замкнуў на сябе ўсе фінансавыя струмені «Гавары праўду», практычна развaліў структуру. Ну і супрацоўніцтва з КДБ — гэта само сабой.

Андрэй Дзмітрыеў не ўдзельнічаў у выбарах 2015 года толькі таму, што яшчэ не дасягнуў узросту, які дазваляе балатавацца.

А што ж тады Таццяна Караткевіч? У 2015 годзе яна стала кандыдатам у прэзідэнты толькі таму, што Андрэй Дзмітрыеў не мог удзельнічаць у выбарах. Адпаведна, у 2020 годзе, калі Дзмітрыеў дасягне «электаральнай сталасці», наўрад ці Караткевіч будзе яму патрэбная.

Да таго ж на Таццяну Караткевіч сёння праектуецца адкрытая нелюбоў большасці апазіцыянераў да Андрэя Дзмітрыева. Менавіта таму яшчэ ў перыяд прэзідэнцкай гонкі 2015-га ў мас-медыя і ў сацыяльных сетках разгарнулася тое, што цалкам можна назваць «цкаванне». Пачынаючы ад пастулату «Андрэй Дзмітрыеў вылучыў у прэзідэнты сваю сакратарку» і заканчваючы падборкамі адкрытых ляпаў, якія Караткевіч дапускала ў сваіх публічных выступах.

Сёння Таццяна Караткевіч занятая бягучымі справамі арганізацыі ды працягвае працаваць яе «тварам» — з'яўляецца на самых розных мерапрыемствах. Наколькі яна ўключаная ў «глыбінныя» справы «ГП» — грамадскасць не ведае. Перавагі Таццяны — стараннасць, працавітасць ды прыязная знешнасць. Недахопы — імідж «збітага лётчыка» (досыць узгадаць мянушку «мадам 4,4%»), ды відавочная другаснасць адносна Дзмітрыева.

## Павал Латушка

Чалавек, аб якім ходзяць упартыя чуткі ў палітычным бамондзе, што яго адмыслова берагуць на выпадак, калі запатрабуецца абсалютна прахадны кандыдат ад улады. 44-гадовы былы міністр культуры, а цяпер



Фота www.kp.by

пасол Беларусі ў Францыі, а таксама ў Іспаніі і Партугаліі, рэзка адрозніваецца ад пераважнай большасці чыноўнікаў.

Па беларускіх мерках, проста юны дзяржслужачы, вонкава яшчэ не пераўтвораны ў азызлага калгаснага бонзу. Латушка падкрэслівае свой празаходні менталітэт — ён мог бы аказацца ідэальным кандыдатам у прэзідэнты Беларусі для тых, каму да смерці абрыдла як апазіцыя, так і нязменны начальнік краіны. І для Захаду кандыдатура Латушкі даволі прывабная.

Аднак сёння Павал Латушка амаль адсутнічае ў беларускай медыйнай прасторы. Хіба толькі часам з'яўляецца ў сюжэтах БТ, каментуючы дзеянні МЗС. Ягоны вялізны плюс (з «перадвыбарчага» пункту гледжання) — незабруджанасць. Латушка доўгі час быў ля самых вяршыняў улады, але ўдала пазбег шматлікіх магчымасцяў запэцкацца ў справах прэзідэнцкага атачэння. Дададзім сюды выразную нацыянальную арыентаванасць — і атрымаем хіба не самага лепшага з патэнцыйных кандыдатаў ад улады.

**Працяг будзе**

# Ніна Шыдлоўская: «Я зразумела, што адчувалі людзі ў 1937-м»

Аксана КОЛБ




**Пасля таго, як усе фігуранты «справы патрыётаў» апынуліся на волі, Наста Дашкевіч напісала на сваёй старонцы ў Фэйсбуку: «Усе дома. Усе шчаслівыя. І я ведаю тую, хто шчаслівая болей за ўсіх! Ніна, ты арганізавала людзей, падтрымку, кампанію салідарнасці, перамагаючы слёзы свае і блізкіх! Ты дэманстравала неверагодную моц духа, нягледзячы на паўсюдную стому. Такая крохкая і заўсёдна жартаўлівая жанчына, што ўступілася за некалькі дзясяткаў хлапцоў і іх родных! Дзякуй табе ад усіх нас! Ты — прыклад мужнасці, харства, прафесіяналізму і цудоўнага пачуцця гумару!»**

Гэтыя словы ўдзячнасці — Ніне Шыдлоўскай. Неверагодна мужнай, моцнай і прыгожай жанчыне. Анёлу-абаронцы, як напісаў пра яе хтосьці са сваякоў затрыманых. З Нінай мы сустрэліся праз некалькі дзён пасля вызвалення хлопцаў, каб пагаварыць пра тое, навошта яна ўвязалася ў гэту бойку, што яе натхняла і бянтэжыла і, нарэшце, пра тое, што трэба рабіць далей.

***— Ніна, без цябе хлопцы маглі б атрымаць рэальныя тэрміны. Коштам уласнага здароўя і часу, ты зрабіла шмат, каб зламаць распрацаваны некім сцэнар. Але навошта табе гэта было трэба? Навошта было браць на сябе цяжар змагання за ўсіх?***

— Іначай быць не магло. У мяне не было нават часу на роздум. І сёння, калі я задаю сабе пытанне, ці рабіла б усё гэта зноў, ведаючы ўжо ўсё, што было, пра ўсе падводныя камяні, з якімі сутыкнулася, адказваю сабе: рабіла б.

Я цудоўна асэнсоўвала: будуць спрабаваць дапамагчы канкрэтнаму чалавеку, грамадскія арганізацыі таксама будуць дапамагаць, але, зноў жа, сегментарна (сярод затрыманых частка людзей з «Маладога фронту», частка былых легіянераў, частка наогул не належыць ні да якіх арганізацый). Была небяспека, што на фоне масавых затрыманняў «справа патрыётаў» проста згубіцца.

Асэнсаванне сур'ёзнасці небяспекі прыйшло пасля той фэйкавай улёткі (18 сакавіка ў сацыяльных сетках разышлася фэйкавая ўлётка нібыта ад імя «Белага легіёну» з заклікам да гвалтоўнай змены дзяржаўнага ладу. — рэд.). Асэнсаванне, што гэта рэальная небяспека зусім іншага ўзроўню. Я не ведала канечне, што рыхтуецца, нават уявіць не магла такога сцэнару, але было проста кожнай клетачкай адчуванне: гэтым разам сітуацыя значна страшней і горш.

Суадносіла, што адбываецца, з сацыяльнай і палітычнай сітуацыяй. Бачыла, што людзей збіраюцца выкарыстаць у палітычнай гульні. І адчувала, што магу дапамагчы. Алгарытм дзеянняў адразу ўзнік у галаве. Першае, што было патрэбна, — публічнасць, шырокі розгалас. Другое — наладзіць сувязь паміж тымі, хто праяўляў ініцыятыву і дапамагаў, паміж сваякамі затрыманых. Трэцяе — інфармаванне міжнароднай супольнасці. Каб усю энергію і высілкі сканцэнтраваць і накіраваць на дапамогу хлопцам.

***— Што давала сілы?***

— Найперш сілу давала абсалютная перакананасць у невінаватасці затрыманых. А яшчэ эмацыйны напал, сумесь абурэння і нейкай любові ў чыстым выглядзе да тых добрых людзей, якія патрапілі ў страшную рэпрэсіўную машыну. Я — мабыць першы раз у жыцці — зразумела, як маглі сябе адчуваць людзі ў 1937-м. «Справа патрыётаў» — гэта паўтор той сітуацыі ўжо ў XXI стагоддзі.

Трэба было як мага грамчэй заявіць, што бяда прыйшла, і нам усім супольна трэба ратаваць не толькі гэтых канкрэтных людзей, але нас усіх. Сітуацыя паказала, што любы чалавек можа трапіць пад рэпрэсіўную машыну, і не можа быць нават намёку на справядлівасць ці законнасць.

***— Ты сказала пра падводныя камяні... Што мелася на ўвазе?***

— Калі сутыкаешся з падобнай сітуацыяй, то ведаеш: ёсць, так бы мовіць, ворагі, тыя, хто робіць зло, ты ад іх апрыёры не чакаеш нічога добрага. Але калі нешта падобнае робяць людзі са стану сваіх... Гэта выклікае найбольшае неразуменне. У мяне тады не было часу ацэньваць словы, учынкі, бяздзеянне тых ці іншых. Я проста сабе такія факты канстатавала. Зараз не час яшчэ гаварыць шмат пра якія дэталі. Магу толькі сказаць: хай сабе і не самым танным коштам, але мне ўласна за гэты час сталі больш яснымі шмат якія моманты ў дзейнасці некаторых людзей і арганізацый.

***— Ты маеш на ўвазе кагосьці канкрэтнага?***

— Я вельмі чакала, што змагу на сто адсоткаў абаперціся на нашы праваабарончыя арганізацыі. Таму што сітуацыя абсалютна відавочная: людзей выкарыстоўваюць у палітычнай гульні, гэта палітычная замова, прытым нават не да канца зразумела, ці ўласна нашай дзяржавы. І, з аднаго боку, канечне, вялікі дзякуй той жа «Вясне», якая дала памяшканне для правядзення прэс-канферэнцыі, дапамагала кансультацыямі і не толькі мне, і сваякам. А з іншага — моцна здзівіла нежаданне, нават супраціўленне таму, каб адназначна заявіць: людзі затрыманыя па палітычных прычынах. Адсылкі да нейкіх крытэраў у дадзенай сітуацыі — зручнае прыкрыццё, на маю думку. Заўсёды ёсць магчымасць, так бы мовіць, індывідуальнага падыходу. І абурыла, што знаходзіліся тыя, хто дапускаў выказванні: маўляў, дыму без агню не бывае... Было цяжка растлумачыць гэта сваякам затрыманых. Я сама не магла гэта зразумець і тады, і зараз. Мне падаецца, каб ацэнка з боку праваабаронцаў была ад пачатку адназначнай і агучана адразу, то хлопцы б маглі выйсці раней.

***— А што палітычныя лідары, ці была ад іх нейкая падтрымка?***

— А я не ведаю, можа і была, можа хтосьці з іх пісаў лісты хлопцам, можа хтосьці яшчэ што добрае рабіў. Ведаю толькі, што на самым пачатку Мікалай Статкевіч звярнуўся асабіста да Ангелы Меркель з просьбай узяць пад увагу гэту справу. І ўсё. Яшчэ я ўдзячная Андрэю Дзмітрыеву, які адразу ж прапанаваў дапамогу і ў пэўны крытычны для мяне момант дапамог.

***— То бок ніхто больш з партыйных лідараў асабіста табе дапамогу не прапаноўваў?***

— Не. Можа напачатку быў не зусім зразумелы мой статус (вядома, што я былая жонка Мірaслава Лазоўскага). Але са згоды сваякоў затрыманых я хутка публічна акрэсліла свой статус як грамадскага прадстаўніка сем'яў. І тут ужо была не Ніна Шыдлоўская, якая персанальна за кагосьці перажывае, а прадстаўнік усіх затрыманых. Але ніхто не выходзіў на мяне. Ніхто не звяртаўся ні з прапановамі, ні з парадамі, ні тым больш з дапамогай. Наколькі я ведаю, ніхто нічога падобнага не прапаноўваў і сваякам затрыманых наўпрост. А вось інтэлектуальная эліта, грамадскі сектар зрэагавалі адразу і адназначна, уключыўшыся ў нашу кампанію «Патрыёт — не злачынца».

***— З чым, на твой погляд, звязана такая пазіцыя большасці лідараў апазіцыі?***

— У мяне такое ўражанне, што шмат у каго дасюль застаецца боязь хоць неяк дакрануцца да гэтай справы. Я не магу гэтага зразумець. Калі напрыканцы 1990-х дапамога ад тады дзеючага «Белага легіёна» была патрэбная, ніхто нічога не апасаўся. А зараз... Ці гэта з-за правілаў гульні, якія задаюцца нашай уладай, і мала хто з палітычнага ці грамадскага сектару здольны падысці да краю «зоны вольнасці». Страх? Абыякавасць? Не ведаю. Я нават зараз не гатова даць гэтаму ацэнку. Проста канстатую.

Затое і пералік тых, хто разам са мной змагаўся за патрыётаў, таксама вялікі. Я б дужа хацела назваць кожнага і падзякаваць. Але спіс вялікі, таму зараз толькі некаторых назаву, без чыёй дапамогі было б немагчыма. Найперш, Наста Дашкевіч, Алесь Кіркевіч, Павел Юхневіч, Ганна Шапуцька, Зміцер Сасноўскі, усе мае калегі па «Бацькаўшчыне» і Саюзу пісьменнікаў. Суполцы «BY_help» дзякуй асобны. Неверагодна спрацавалі! Таксама я ўдзячная Лятучаму ўніверсітэту і асабіста Уладзіміру Мацкевічу.

А яшчэ быў цэлы шквал падтрымкі ад людзей, якія часам нават не называліся і нават не ведалі затрыманых асабіста. І гэта давала неверагодныя сілы і мне, і сваякам перажыць бяду.

Дарэчы, за ўвесь час мне не даводзілася пабачыць хоць кагосьці, хто б паверыў таму шальмаванню патрыётаў, якое пайшло праз БТ і СБ. Мне здаецца, людзі ўсё ж пачалі думаць. Да шмат каго нарэшце дайшло: не важна, як ты жывеш, чым ты займаешся, наколькі трымаешся закону, калі будзе замова, рэпрэсіўная машына можа цябе зачапіць і раздавіць.

Я вельмі ўдзячная шмат якім выданням, найперш «Новаму Часу», «Нашай Ніве», «Радыё Свабода», «Еўрарадыё», «Белсату» іншым незалежным медыя, якія адгукаліся на мае прапановы, ды і самі шукалі нагоду, каб расказваць пра затрыманых. Бо хлопцы — не медыйныя персоны, пра іх было мала што вядома. А публікацыі дапамагалі фармаваць справядлівае меркаванне і пра «справу патрыётаў» і пра саміх затрыманых.

***— Што для цябе было самым цяжкім падчас гэтых месяцаў?***

— Мяне вельмі непакоіла, што маглі вырабляць з псіхікай затрыманых. Бо як могуць уздзейнічаць сілавыя структуры на людзей, я ведаю. Тым больш, калі задумана такая гучная справа, а пад яе не існуе пераканаўчых доказаў. Было зразумела, што будуць спрабаваць атрымаць ад хлопцаў хоць што-небудзь любымі спосабамі. А інфармацыі пра гэта не было, і дапамагчы там затрыманым я не магла. Гэта было, бадай, самым цяжкім.

На пачатку таксама было складана працаваць з некаторымі сваякамі, цяжка растлумачыць, чаму нельга маўчаць, чаму трэба рабіць усё супольна і публічна.

А на сёння самае цяжкае — што справа не спыненая, абвінавачванні з 16-ці чалавек не знятыя. Так, хлопцы зараз па сваіх хатах, гэта цудоўна. Але, як далей будзе ісці гэта палітычная гульня, ад чыйго настрою, загаду і бачання выгады будзе залежыць лёс гэтых людзей, мы не ведаем. Хлопцы сталі закладнікамі ў эканамічна-палітычнай гульні пад назвай «Беларусь паміж Усходам і Захадам».

Тое, што зараз адбываецца, мне вельмі нагадвае падзеі 2010 года. Тады Беларусь максімальна пачала кантактаваць з Захадам, але пасля дасюль не зразумелых і алагічных падзей на Плошчы быў зроблены разварот у супрацьлеглы бок. І зараз, як толькі зноў пачалі цяплець стасункі з Захадам, з'явілася «справа патрыётаў».

Не ведаю, ці гэта спецслужбы расійскія, ці гэта нашы пастараліся, але зноў пачалася спроба сапсаваць кволыя парасткі дыялогавых механізмаў. Гульня працягваецца. Скончылася сесія ПА АБСЕ, і як далей будуць разыгрываць партыю лёсаў людзей, пакуль не вядома.

Таму вельмі важна, каб увага міжнародных структур да справы патрыётаў не аслабла. Я вельмі ўдзячная і дыпламатычнаму корпусу, і міжнародным структурам, якія працуюць у Беларусі, за цікавасць да справы патрыётаў, за жаданне дапамагчы ў яе вырашэнні. Але — яшчэ раз падкрэслю! — з вызваленнем хлопцаў нічога не скончылася. Гэта толькі перадых. Я б сказала нават, гэта толькі пачатак. Нельга губляць пільнасць і расслабляцца.

Трэба найперш звяртаць увагу на тое, што справа па артыкуле 287 не спыненая. Патрабаванне пра зняцце абвінавачванняў з усіх фігурантаў павінна гучаць на ўсіх узроўнях. На ўзроўні міжнародных структур, палітычных і грамадскіх арганізацый, а таксама на звычайным людскім узроўні.

Пакуль гэта не адбылося, чужая і страшная гульня працягваецца. І ў такую гульню могуць уцягнуць любога. Ад таго, каб трапіць пад кола рэпрэсій, сёння ніхто не застрахаваны. Хоць мы жывём ужо ў 2017 годзе, а не 1937-м.

# Дык хто ж вінаваты ў змарненні мовы?

Мікола САВІЦКІ,
прафесар

**Прайшло ўжо больш за паўгода, як не «адпускае» сваім глыбокім зместам артыкул і яго аўтар — вязень Глыбоцкай папраўчай калоніі №13 Ігар Златагурскі «Хто вінаваты ў змарненні беларускай мовы?» («Новы Час», №41, 28 кастрычніка 2016).**

Спадар Ігар вельмі прафесійна выклікае на дыскусію. Ён пачынае яе з дакладна акрэсленай сваёй пазіцыі. Толькі асобы, надзеленыя спрадвечнай народнай мудрасцю і народнай педагогікай, здольныя ў публічнай дыскусіі сказаць: «Калі б на пытанне, хто вінаваты, давялося адказваць мне, то, не вагаючыся ні хвіліны, сказаў бы: асабіста я і мае продкі». Усе далейшыя думкі, разважанні, і асабліва шчырае самапаспавяданне спадара Ігара кладуцца ў рэчышча агульнанацыянальнай катастрафічнай праблемы вынішчэння беларускай мовы.




Святая шчырасць аўтара, што ў 90-я гады ХХ стагоддзя ў яго «тая мая любоў да беларускай мовы была вонкавай, а ў сапраўднасці я быў да мовы абыякавы. І толькі гэтая абыякавасць, а не штосьці іншае, і замінала пачаць гаманіць па-беларуску». Шчырасць у думанні і простыя словы раскрываюць і напаўняюць разуменне беларусамі аксіём: «Мова — душа народа», «Са смерцю мовы памірае і нацыя».

Але пазіцыю спадара Златагурскага пра тое, што «ці варта закідаць уладзе» пра яе адказнасць за трагічны стан беларускай мовы, здаровым сэнсам і навукова-гістарычнай логікай нельга ні зразумець, ні апраўдаць. Любы генацыд ёсць генацыд. Моўны генацыд у Беларусі стаўся гістарычным працэсам на працягу стагоддзяў. Беларусаў апалячвалі, русіфікавалі стагоддзямі. Вось толькі адзін гістарычны дзяржаўны акт, адкуль ідзе пачатак сённяшняй русіфікацыі на дзяржаўным узроўні.

«...Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ её белорусами, чем на века привяжем её к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя», — расійская імператрыца Кацярына ІІ, 1796 год.

Але, як сведчыць статыстыка царскай Расіі, нашы продкі духоўна і геройчна змагаліся за сваё выжыванне. Праз 100 гадоў, у 1897 годзе, адбыўся Першы Усерасійскі перапіс насельніцтва Расійскай імперыі. Яго вынікі такія: «По родному языку Европейской России» ў губернях «говорили на белорусском языке в Виленской 56,1%, в Витебской — 53,0%, Гродненской 44,0% Минской — 76,0%, Могилевской — 82,4%. Всего — 63,5% или 5.408.420 жителей». Як бачна, за 100 гадоў ні рускі штык, ні руская школа, ні рускі поп не змаглі асіміляваць нашых улюбёных у родную мову продкаў.

Мова — душа народа. Без мовы няма спелай нацыі. На сёння яе стан інакш нельга назваць, як катастрафічным пасля ўвядзення афіцыйнага двухмоўя. Прыняты дзяржавай Закон аб адзінай дзяржаўнай мове ў Беларусі дзейнічаў толькі няпоўных 5 гадоў. Без таго, што было рэальна дасягнута ў адраджэнні беларускага народа за гэта гістарычнае імгненне, не было б сучаснай Рэспублікі Беларусь. У той час дзяржава абараняла, спрыяла імкліваму адраджэнню, распаўсюджванню беларускай мовы, этнічнаму яе аздараўленню. Гэты час ад прыняцця «Закона Аб мовах у Беларускай ССР» (26 студзеня 1990 года) і «Закона Аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі Беларускай ССР» (26 студзеня 1990) і да ўсталявання ўлетку 1994 года прэзідэнцкай сістэмы кіравання краінай быў зорным, калі беларуская мова была адзінай дзяржаўнай на нашым небасхіле.

Праведзенымі ў маі 1995-га і ў лістападзе 1996-га рэферэндумамі сама дзяржава (магчыма, не прадбачачы сённяшнюю сітуацыю) пазбавіла беларускую мову ўсялякай магчымасці быць запатрабаванай у афіцыйным і грамадскім жыцці. Яно амаль у поўным аб'ёме абслугоўваецца рускай мовай, што пазітыўна ўплывае на імклівую татальную русіфікацыю. У выніку беларусы на сваёй гістарычнай радзіме жывуць фактычна не толькі без сваёй роднай мовы і нацыянальнай культуры, і да таго ж яшчэ ў сфальсіфікаванай гісторыі. Праблемы мовы і культуры карэннага этнасу ва ўсіх краінах свету адносяцца да стратэгічных праблем нацыянальных інтарэсаў дзяржавы.




**Выключная арыентацыя ў пытаннях мовы на Расію вылілася праз 23 гады ў поўную катастрофу. Моўная палітыка і яе ідэалагічнае забеспячэнне ў Беларусі не скіраваныя на ўмацаванне незалежнасці і рэальнага суверэнітэту**

Выключная арыентацыя ў пытаннях мовы на Расію вылілася праз 23 гады ў поўную катастрофу. Моўная палітыка і яе ідэалагічнае забеспячэнне ў Беларусі не скіраваныя на ўмацаванне незалежнасці і рэальнага суверэнітэту. На жаль, па традыцыі непавагі да папярэдніх кіраўнікоў у СССР, спачатку закансервавалі ўсё, што атрымалі ў спадчыну ад папярэдняга палітычнага рэжыму, а затым сталі працягваць звыклую за стагоддзі для нашага народа палітыку русіфікацыі. Гэта прывяло да сапраўднай нацыянальнай трагедыі беларусаў: яны не толькі амаль франтальна анямелі ў роднай мове, што вельмі трывожна, а сталі абыякавымі да сваёй дзяржаўнасці.

З улікам ролі і месца сучасных СМІ ў жыцці грамадства, кардынальна выправіць становішча магчыма толькі на нацыянальным дзяржаўным узроўні. Патрэбна кансалідацыя розуму ды сакральнай энергіі беларускага народа і ўлады.

Да тэмы будзе і выказванне выкладчыка філасофіі маскоўскай Вышэйшай школы эканомікі, аглядальніка «Новой газеты» і папулярнага аўтара дописаў у Фэйсбуку Максіма Гарунова. На пытанне журналіста: «Як вы адчуваеце: Беларусь захаваецца праз сто гадоў?», адказаў: «Беларусы ў любым разе застануцца і нікуды не падзенуцца і праз сто, і праз дзвесце гадоў. Бо гэта беларусы. Калі яны ўжо дажылі да 2017 года, нягледзячы на ўсе перыпетыі гісторыі, якія з імі здараліся, дык, думаю, і пасля 2017-га яны працягнуць існаваць. Яны проста даказалі сваё права на існаванне тым, што так доўга трываюць. Куча народаў навокал знікла — прусы, яцвягі — а гэтыя ёсць».

Яскравым сведчаннем неўміручасці беларускага этнасу і беларускай мовы ёсць наш апанент з Глыбоцкай турмы Ігар Златагурскі. Ён, як Знічка на беларускім небе, і ў спецыфічных умовах жыцця выпраменьвае святло нашай годнай вечнасці ў моўнай сімфоніі ўсіх народаў планеты Зямля. Дзякуючы яго публікацыям ў сродках масавай інфармацыі жыхары Беларусі даведаліся, што беларуская мова жыве ва ўсіх куточках беларускай прасторы, нават у самых неспрыяльных.

Пра сённяшнія праблемы нацыянальных моваў у краінах Еўрасаюза ў «Новым Часе» (№11, 24 сакавіка 2017) надрукаваны змястоўны артыкул Алега Новікава «Мова і Еўропа», які пажадана не прапусціць. Ён карысны для думання над вырашэннем праблем беларускай мовы ў Беларусі ва ўмовах глабалізацыі і русіфікацыі, якія нясуць пагрозу моўнай і культурнай асіміляцыі-русіфікацыі.





Фота www.foxnews.com



Фота www.handelsblatt.com



Фота www.jutarnji.hr

# «Грошы маюць уласцівасць заканчвацца, а нацыянальная ідэя — ніколі»

Язэп СТЭПАНОВІЧ

**«Беларусь — край эканамічнага росквіту, сацыяльнай справядлівасці і грамадзянскай згоды». У гэты ідэальны вобраз, створаны ўладамі краіны праз афіцыйныя СМІ, наіўна вераць шматлікія як тутэйшыя, так і замежныя грамадзяне. І, мяркую, хацелася б верыць кожнаму беларусу.**

Але чамусьці няма наплыву ў наш «рай» інтэлектуальных, працавітых і прадпрымальных замежнікаў. Наадварот, бачым бясконца нарастальную плынь адтоку адмыслоўцаў і перспектыўнай беларускай моладзі ў блізкае і далёкае замежжа. Кошты на ўсе тавары і паслугі няспынна растуць, апярэдзіўшы еўрапейскія, а кішэні шараговых грамадзян пусцеюць. У кожнай краіне свету ўрады клапоцяцца пра нацыянальную ідэнтычнасць, а ў нас увачавідкі знікае мова тытульнай нацыі. Штосьці тут не так. Пра гэта ўжо задумваюцца нават звычайныя абывацелі, якіх, здавалася, не цікавіў лёс нацыі і незалежнасці краіны.

### Неабвешчаная грамадзянская вайна

Перад намі «Каралеўства крывых люстэркаў», створанае 22 гады таму, калі на дэмакратычнай хвалі, спекулюючы постсавецкай сацыяльнай неўладкаванасцю грамадзян, ва ўладзе апынуліся папулісты на чале з першым кіраўніком дзяржавы. Парадаксальна, несправядліва, прыкра, але факт: вярхоўнае кіраванне атрымалі не змагары за годнасць нацыі і незалежнасць, дзякуючы якім у 1991 годзе была адноўлена дзяржаўнасць краю ў форме Рэспублікі Беларусь, а яе працiўнікі, не абцяжараныя такім клопатам. Апынуўшыся ва ўладзе, «маладыя ваўкі» праз наяўныя дэмакратычныя рычагі першым чынам адрынулі гэту не балючую ім праблему і ўмацавалі да таго жісныя «царскія» паўнамоцтвы Аляксандра Лукашэнкі.

Узброіўшыся вынікамі праведзенага імі незаконнага і спекуляцыйнага рэферэндуму, была цалкам узурпаваная ўлада ў краіне з далейшай трансфармацыяй Канстытуцыі 1994 года і выбарчага заканадаўства. Усімі дзяржаўнымі СМІ разгарнулася шалёная антынацыянальная кампанія, скіраваная на выбіванне глебы з-пад ног асноўнага апанента — былой апазіцыі ў Вярхоўным Савеце і сапраўды патрыятычных грамадзян. З экранаў тэлебачання — самага дзейснага тады СМІ — апалагеты ўлады атрутай пырскалі, абмяркоўваючы адчайныя акцыі грамадзянскага супраціву. Гнюсна бэсціліся нацыянальныя сімвалы: бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня».

Гістарычна справядлівы і заканамерны працэс адраджэння беларускай нацыянальнай дзяржавы фактычна прыпыніўся. Пачалася і доўжыцца па сёння неабвешчаная грамадзянская вайна. Нахабна, цынічна, бескампрамісна. Сілы выключна няроўныя. Ва ўлады ўсё ў руках — фінансы краіны, адзінадушны парламент, сілавыя структуры (дарэчы, большыя, чым у суседняй Польшчы з яе 38 мільёнамі насельніцтва), судовая сістэма.

У грамадзян жа — толькі сіла асабістай волі і салідарнасць. На гэтым ужо не прыхаваным фронце ёсць шматлікія людскія ахвяры з боку апазіцыі ўладзе, перад усім у асобах Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, Генадзя Карпенкі, Алега Бябеніна, Анатоля Майсені… А колькі было асуджана да турэмнага зняволення (сярод іх нябожчык прафесар Юры Хадыка, Вячаслаў Сіўчык, Мікола Статкевіч, Павел Севярынец, Аляксандр Казулін, Андрэй Саннікаў, Уладзімір Някляеў, Зміцер Дашкевіч і іншыя), аштрафавана… Колькі неагалосна падпалі пад люстрацыю ды змушана пакінулі радзіму?..



Фота www.news.21.by

**Нават на гарачым фронце перамоўны спосаб дасягнення міру найбольш паспяховы. Інакш напружанне ў грамадстве не вытрымае, і будзе ўшчэнт зруйнаваны наш агульны дом — Беларусь. Рэшткамі яго скарыстаецца хто заўгодна, толькі ні адзін з варажнечых бакоў**



Фота www.euroradio.fm

Тысячы і тысячы! Шматвектарная рэпрэсіўная машына набірае абароты. Як трапна ахарактарызаваў Зянон Пазьняк, метадычна «скошваецца» нацыянальная эліта.

Паслядоўна знішчаецца і асноўная база нацыянальнага адраджэння — беларускамоўная адукацыя на ўсіх узроўнях (ад дзіцячага садка да вышэйшай навучальнай установы). На гэтым кірунку фронту хутка поўная зачыстка. Колькасць першакласнікаў краіны, якія зараз навучаюцца на беларускай мове, складае крыху больш за 10%, у той час як у 1993–1994 навучальным годзе іх было 76%. І дагэтуль няма ніводнай беларускамоўнай ВНУ, а на беларускай мове навучаецца блізу 0,1% студэнтаў.

Адзіны прарыў у грамадскасці — па лініі Курапатаў. У каторы раз жывым шчытом удалося адстаяць гэту сакральную выспу беларускай зямлі ад далейшай забудовы і здзеку з памяці продкаў.

### Амаль адзіны шанец…

Апошнія падзеі ў краіне, асабліва на Дзень Волі 25 сакавіка, калі тысячы людзей і без лідараў (яны былі прэвентыўна нейтралізаваныя спецслужбамі) праз татальную міліцэйскую блакаду цэнтра Мінска выйшлі на пратэст, паказалі, што ліквідаваць імкненне да волі, пагасіць нацыянальны патрыятызм у грамадстве немагчыма.

Грошы маюць уласцівасць заканчвацца, а вось нацыянальная ідэя — ніколі. Сістэматычны недазвол грамадзянам карыстацца канстытуцыйным правам выказаць публічна сваю думку і практычна загон іх (па вядомай кваліфікацыі «адмарозкаў») у стойла (аўтазакі) пад звон шчытоў і дубінак АМАПу ўрэшце змушае апанентаў улады шукаць іншыя сродкі дзеля абароны сваёй годнасці. Выпрабаваная гісторыяй беларуская цярплівасць, як навукоўцы кажуць, адносны кантынуўму (ад лац. continuum — непарыўны, суцэльны), мае пэўныя межы. Дэкрэт №3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрымантсва» — адзін з кранутых уладамі дэтанатараў. Узгадайма Янку Купалу: "Я — мужык, а гонар маю, гнуся, але да пары. Я маўчу, маўчу, трываю, але скора загукаю…». Купала — прарок.

Нельга здзекавацца з нацыянальных пачуццяў народа і выпрабоўваць яго трыванне. Ёсць яшчэ шанец, лічу, адзіна правільны — сесці за стол перамоваў кіраўнікам улады і «непрымірымай» апазіцыі. Менавіта з апошняй павінны весціся ўладамі дыялог, паколькі ўсе астатнія грамадскія аб'яднанні (БРСМ, Белая Русь, афіцыйныя прафсаюзы і г. д.) апякуюцца дзяржавай і прадстаўлены ў яе кіроўных органах. І ключавымі пытаннямі да разгляду мусяць быць агучаныя на апошніх акцыях пратэсту грамадзян краіны: 1) змены ў Законе аб выбарах; 2) датэрміновыя і дэмакратычныя выбары ўладаў усіх узроўняў.

Нават на гарачым фронце перамоўны спосаб дасягнення міру найбольш паспяховы. Інакш напружанне ў грамадстве не вытрымае, і будзе ўшчэнт зруйнаваны наш агульны дом — Беларусь. Рэшткамі яго скарыстаецца хто заўгодна, але толькі ні адзін з варажнечых бакоў. У новага «ўрада» будзе функцыя неганаровага правінцыйнага кіравання, а «электарату» застанецца пастаўляць пушачнае мяса на пагашэнне гарачых міжімперскіх канфліктаў. Эканамічнае працвітанне правінцыі, як правіла, не свеціць.

Тое, што ў цяперашняга кіраўніцтва ёсць пачуццё самазахавання, яскрава паказала нядаўняе далучэнне Міністэрства культуры да грамадскай акцыі па абароне месца масавых пахаванняў і ўвекавечанні памяці ахвяраў Курапацкай трагедыі. Няхай знянацку, змушана, няшчыра (вядомыя «мудрыя» хітрыкі), але гэта ўжо пэўны крок на шляху да нацыянальнай згоды.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Пуцін рыхтуе «архіўную бомбу»

У выніку размовы Уладзіміра Пуціна з кіраўніком Федэральнага архіўнага агенцтва Андрэем Арцізавым было прынята рашэнне пра рассакрэчванне мноства архіўных дакументаў. Гісторыкі ўжо зараз смакуюць змест матэрыялаў, з якіх будзе зняты грыф «цалкам сакрэтна». Пішуць, што рассакрэчваць будуць дадзеныя аб ходзе бітваў, загадах падчас Другой сусветнай і аб міждзяржаўных адносінах у перыяд «халоднай вайны». Між тым у прэсе з'явіліся чуткі, што галоўная мэта Крамля — не раскрыць невядомыя старонкі гісторыі, а выліць кампрамат на палітычных праціўнікаў. Ёсць інфармацыя, што будуць апублікаваныя спісы тых, хто працаваў на КДБ у савецкі час, сярод якіх шмат цяперашніх дэмакратаў, і нават ёсць кіраўнікі дзяржаў СНД. Чакаецца зліў кампрамату на літоўскага прэзідэнта Далю Грыбаўскайтэ, якая ў маладосці працавала ў структурах КПСС. Другі блок дакументаў тычыцца лідараў украінскага нацыяналістычнага падполля, некаторыя з якіх актыўна кантактавалі са спецслужбамі СССР. Крамлёўскія палітолагі прагназуюць, што кампрамат на кіраўнікоў АУН-УПА будзе не толькі мінай пад культ бандэраўцаў ва Украіне, але і паўплывае на расстаноўку ўкраінскіх палітычных сіл.

**Паводле расійскай прэсы**

### КАЛУМБІЯ. Палігамныя гей-шлюбы

Падаецца, прадстаўнікі сексуальных меншасцяў вырашылі не спыняцца на праве заключаць шлюбы. У Калумбіі, дзе падобныя акты дазволілі ў мінулым годзе, упершыню ў гісторыі зарэгістраваны шлюб з удзелам трох партнёраў. Мануэль Бермудэз ажаніўся адразу з двума мужчынамі. Прычым фармат сям'і, якую ў прэсе ўжо празвалі Trieja, мог быць яшчэ большым. Спачатку планавалася ажаніцца ўчацвярых, аднак чацвёрты партнёр нечакана памёр. Застаецца дадаць, што раней, у 2015 годзе, «New York Post» паведамляў пра шлюб трох мужчынаў у Тайландзе. Аднак, паколькі там аднаполыя шлюбы забароненыя, усё ж пальма першынства застаецца за калумбійцамі. Навіна пра феномен Trieja выклікала вялікі розгалас у калумбійскім грамадстве, дзе моцныя пазіцыі касцёлу. Дэпутаты, якія прадстаўляюць у парламенце кансерватыўную партыю, патрабавалі анулюваць гэты шлюб. Застаецца прызнаць, што Мануэль і яго два сужэнцы — вельмі смелыя людзі. Калумбія — краіна агрэсіўных гамафобаў. Толькі з 2012 па 2015 год у краіне было забіта каля 400 прадстаўнікоў нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Назарбаеў баіцца Кунаева

Пра нядаўняе перайменаванне сталічнага аэрапорта Казахстана ў гонар дзеючага кіраўніка краіны «Новы Час» ужо пісаў. Рэбрэндынг аэрапорта ў Астане натхніў фанатаў іншых вядомых казахаў. На сайце Change.org з'явілася петыцыя, аўтары якой заклікаюць назваць паветраны порт Алматы ў гонар Дзінмухамеда Кунаева, які ў савецкі час кіраваў Казахстанам аж 24 гады. Постаць Кунаева ў казахскай грамадскай дыскусіі падобная да фігуры нашага Машэрава. Праз тое, што на часы кіраўніцтва Кунаева, а дакладней, на 60–70-я гады мінулага стагоддзя, прыходзіцца ўздым эканомікі і дабрабыту казахаў, тут даўно паўстаў кунаеўскі міф. Таму ідэя аэрапорта імя Кунаева ў чымсьці зразумелая. Між тым, неўзабаве доступ да сайта з петыцыяй пра аэрапорт імя Кунаева апынуўся ў краіне заблакаваным. Хаця міністр інфармацыі і камунікацый Казахстана кажа, што ніякай блакіроўкі няма, яму слаба верацца. Кажуць, што за блакіроўкай петыцыйнай кампаніі стаіць асабіста Назарбаеў, які зайздросціць народнай славе Кунаева. Дарэчы, сярод часткі апазіцыянераў фурор Кунаева выклікаў шок. Яны лічаць Кунаева не толькі звычайным аўтарытарным партапаратчыкам, які забараняў крытыку на адрас рэжыму КПСС. Менавіта пад патранатам Кунаева фармаваўся стыль Назарбаева. «Гістарычныя карані сучаснай карупцыі і кумаўства растуць яшчэ з часоў праўлення Кунаева», — піша адзін з апазіцыйных публіцыстаў.

**Паводле казахскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Худыя любяць сацыялізм

Брытанскі і дацкія вучоныя правялі незвычайныя даследаванні — паспрабавалі высветліць, якія палітычныя погляды маюць мужчыны з рознай вагой цела. Рэспандэнтамі выступілі 170 мужчын ва ўзросце ад 18 да 40 гадоў. Вынікі апытанняў сведчаць пра выразны трэнд — чым менш мужчына мае кілаграмаў, тым больш ён сімпатызуе радыкальным сацыялістычным ідэям. І наадварот — чым ён мажнейшы, тым больш яму сімпатычны рынкавы лібералізм. Праўда, псіхолагі не знаходзяць у высновах эксперыменту нічога экстравагантнага. Паводле іх словаў, у нашым мозгу з часоў з'яўлення чалавека прапісалася ідэя: чым чалавек большы, тым больш у яго шансаў выжыць. Таму худыя мужчыны падсвядома баяцца за сваё жыццё і патрабуюць пераразмеркавання рэсурсаў. Цікава, што на жанчын, як канстатуюць вучоныя, гэтае правіла не распаўсюджваецца.

**Паводле нямецкай прэсы**




Фота www.voanews.com

# «Запрашаем у пекла!»

Алег НОВІКАЎ

**Асноўная сусветная падзея гэтага тыдня — саміт лідараў 20 найбольш уплывовых краін свету ў Гамбургу, — не абыдзецца без мабілізацыі праціўнікаў глабалізацыі. Пра тое, чаго дамагаюцца антыглабалісты, распавядае Альке Вайтэрмаер, член нямецкай экалагічнай ініцыятывы Robinwood.**

***— Пратэсты супраць самітаў кіраўнікоў вядучых дзяржаў пачаліся прыкладна ў 2000 годзе. Ці давяла такая практыка ціску грамадства на палітычны істэблішмент сваю эфектыўнасць?***

— Эфект такіх акцый ацаніць немагчыма, паколькі іх асноўная канцэпцыя, хутчэй, сімвалічная — пратэст супраць кулуарнага прынцыпу прыняцця рашэнняў, якія тычацца лёсаў людзей і планеты. Меркель, Трамп і іншыя палітыкі павінны ўвесь час ведаць, што простыя людзі назіраюць за імі і кантралююць іх учынкі. Гэтая тэма будзе асноўнай падчас пратэстаў у Гамбургу.

Акрамя таго, існуе шмат лакальных тэмаў. Напрыклад, шматлікім нямецкім грамадзянам не падабаецца, што саміт фінансуецца за кошт падаткаплатнікаў (сустрэча ў Гамбургу абыдзецца бюджэту ФРГ у 15 мільёнаў еўра). Вельмі важнай падчас пратэстаў будзе антываенная тэма. Сярод удзельнікаў саміту — асобы, непасрэдна адказныя за эскалацыю канфліктаў: Пуцін, Эрдаган, Трамп, кіраўнік Саудаўскай Аравіі і гэтак далей. Нарэшце, падчас «антысаміту» пройдзе вялікая канферэнцыя з удзелам шматлікіх экспертаў левых поглядаў. Яны паспрабуюць прапанаваць альтэрнатыўную мадэль сусветнага парадку.

***— Як непасрэдна выглядае план пратэстаў?***

— Пачынаючы з 2 ліпеня ў Гамбургу збіраюцца праціўнікі саміту. На працягу гэтага тыдня ў горадзе пройдзе каля 30 дэманстрацый на розную тэматыку. Увесь час будуць адбывацца семінары, культурныя імпрэзы, лекцыі. На выходныя пройдзе галоўная маніфестацыя пад назвай «Запрашаем у пекла!». Будзе ў гамбургскіх пратэстаў і свая фішка. Паколькі Гамбург — партовы горад, антыглабалісты стварылі флатылію, якая збіраецца пратэставаць на вадзе. Паліцыя ў адказ падрыхтавала сваю «армаду», каб даць праціўніку «марскі бой». Дарэчы, на гэтым саміце антыглабалісты ўпершыню ўзялі на ўзбраенне вядомае ўсходнееўрапейскае ноу-хау пад назвай «Майдан». Планавалася арганізаваць на адной з цэнтральных плошчаў Гамбургу намётавы лагер.

***— Вядома, што антыглабалісты не аднастайныя. У іх шэрагах хапае тых, хто намагаецца пратэставаць радыкальнымі сродкамі. Як гэта было, напрыклад, у Генуі ў 2001 годзе, калі ў выніку сутычак з паліцыяй не абышлося нават без забітых. Чаго чакаць у Гамбургу?***

— Першыя акцыі ў Гамбургу, што пачаліся ў мінулы ўік-энд, былі цалкам мірныя, аднак інцыдэнтаў наўрад ці атрымаецца пазбегнуць. Яшчэ на этапе падрыхтоўкі радыкальныя групоўкі абвясцілі пра намер за кошт дыверсій і актаў сабатажу на аб'ектах гарадской інфраструктуры сарваць правядзенне G20. Асноўныя бойкі чакаюцца падчас дэманстрацыі 7 ліпеня, на якой радыкалы традыцыйна сфармуюць сваю групу: «Чорны блок». Для зрыву падобных планаў у Гамбургу сканцэнтравана да васьмі тысяч сілавікоў плюс тры тысячы адзінак паліцэйскай тэхнікі. Германія напярэдадні саміту таксама выйшла з рэжыму шэнгену, каб спыніць замежных радыкалаў. Будзе заблакаваны і горад. Таму асабіста я, напрыклад, збіраюся прабірацца туды на цягніку, які нельга будзе спыніць, як аўтамабіль.

Трэба адзначыць, што канфрантацыя ў чымсьці была запраграмаваная загадзя. Нейкі разумнік прыдумаў праводзіць мерапрыемствы G20 побач з Санкт-Паўлі (гамбургскі квартал, дзе знаходзяцца мясцовыя анархісцкія цэнтры). Нездарма ў межах падрыхтоўкі ў Гамбургу пабудавалі часовую турму, куды можна адначасова змясціць каля 400 арыштаваных...

***— Увосень Германія абірае новы парламент. Саміт у Гамбургу і пратэсты могуць стаць важнай мяжой цяперашняй выбарчай кампаніі?***

— Безумоўна. Інакш бы пра намер удзельнічаць у пратэстных акцыях не заявілі ўсе левыя партыі і прафсаюзныя цэнтры. Нават вельмі памяркоўныя сацыял-дэмакраты збіраюцца выйсці на вуліцу. Гэта трошкі смешна, калі ўзгадаць, што менавіта эсдэкі ўзначальваюць муніцыпалітэт Гамбургу, і ў тым ліку яны адказныя за шэраг пастановаў, накіраваных супраць антыглабалістаў. Так ці інакш, іх удзел у «антысаміце» сведчыць пра радыкалізацыю настрояў нават сярод бюргераў. Намагаецца выкарыстаць G20 у піяр-мэтах і Меркель. Яна хоча давесці, што дазваляе нават вельмі радыкальным апанентам выказваць сваю думку, гарантуючы пры гэтым грамадскую бяспеку. Натуральна, канцлер збіраецца таксама засведчыць, што з'яўляецца палітыкам сусветнага маштабу.

***— Ці чакаюць пратэстоўцы ад саміту канкрэтных рашэнняў?***

— Мяркую, што можна чакаць пазітыўных рашэнняў па праблеме змены клімату. Тэмпературныя рэкорды за апошні тыдзень проста шакавалі свет. На Балканах праз спёку паралізаваная чыгунка і авіяцыя, на Поўначы — фенаменальны для лета холад, які нішчыць турыстычны сектар. Акрамя таго, сама Меркель абяцала стварыць агульны фронт супраць Трампа, які абвясціў пра выхад ЗША з Парыжскай дамовы па клімаце. Спадзяюцца, што будзе знойдзены нейкі мірны план для Сірыі і Афганістану. У прынцыпе, нават дзеля гэтага варта будзе выйсці на вуліцу.

# Фактар Удальцова

Алег НОВІКАЎ

**У бліжэйшым часе ў Расіі на свабоду выходзіць Сяргей Удальцоў — адзін з лідараў «балотнага руху», у якім шматлікія палітолагі бачаць новага лідара антыпуцінскай апазіцыі.**



Фота www.vladtime.ru

Нягледзячы на сумны характар расійскага палітычнага працэсу часоў Пуціна, час ад часу тут узнікаюць вельмі яскравыя фігуры, і Сяргей Удальцоў, безумоўна, адзін з іх. На авансцэну Удальцоў прарваўся на пачатку 2000-х, калі кіраваў групоўкай «Авангард чырвонай моладзі» (АКМ), якая славутая радыкальнымі (і нават дзёрзкімі) акцыямі супраць рэжыму Пуціна. Актыў АКМ штурмаваў прыёмныя кіраўніка дзяржавы, біўся з АМАПам на Цвярской, перакрываў у Піцеры Неўскі праспект і гэтак далей.

Пры гэтым сам Удальцоў заўжды быў у першых шэрагах пратэстоўцаў. Ён больш за сто разоў затрымліваўся паліцыяй на мітынгах і дэманстрацыях, атрымаў багата адміністрацыйных арыштаў і правёў «на сутках» агулам некалькі месяцаў. Будучы за кратамі, ён трымаў сухую галадоўку аж да шпіталізацыі.

Радыкальны антыпуцінізм Удальцова міжволі прымусіў яго стварыць агульны фронт з ліберальнай апазіцыяй, адным з фронтмэнаў якога ён стаў падчас так званых «балотных пратэстаў» 2012-га. У выніку яго асудзілі за арганізацыю масавых беспарадкаў на чатыры з паловай гады. У зняволенні Удальцоў падтрымаў пуцінскі курс ва Украіне і выказаў жаданне выправіцца на Данбас, аднак на яго статусе гэта не адбілася. Толькі зараз, пасля адбыцця поўнага тэрміну, Удальцова выпускаюць з-за кратаў, што выклікала ў расійскай прэсе шмат спекуляцый.

Справа ў тым, што Удальцоў мае абсалютны аўтарытэт сярод расійскіх левых і адначасова вядомы ўсёй Расіі. Такім чынам, ёсць унікальны шанец злучыць ліберальную пратэстную аўдыторыю Навальнага з новым пакаленнем «сацыяльных» пратэстоўцаў — прафсаюзнікамі, «дальнабойшчыкамі», моладдзю, якая працуе па найме.

Такая мадэль апазіцыі, на думку палітолагаў, магла б стаць сур'ёзнай пагрозай пуцінскаму рэжыму, паколькі простаму чалавеку відавочна цікавей сацыяльныя тэмы, чым абяцанкі Навальнага змяніць «дрэнных, карумпаваных алігархаў» на «добрых капіталістаў». Як следства, расійская апазіцыя магла б выглядаць як прывабны для шырокай аўдыторыі сацыял-дэмакратычны праект. Дарэчы, сам Навальны сапраўды станоўча згадвае пра Удальцова.

**Навальны, які «прыватызаваў» пратэсты супраць Пуціна, наўрад ці пагодзіцца проста так падзяліцца штурвалам з Удальцовым. Наступствы гэтага могуць быць вельмі драматычныя**

«Сяргей Удальцоў, які з'яўляецца палітычным вязнем і быў адным з лідараў левых арганізацый, безумоўна, ёсць маім паплечнікам», — кажа Навальны.

Аднак ёсць і думка, што такі сцэнар фармавання шырокай апазіцыі рэалізаваць немагчыма. Па-першае, існуюць моцныя ідэалагічныя нестыкоўкі паміж сімпатыкамі Навальнага і Удальцова. Навальны робіць стаўку на малады сярэдні клас ліберальных поглядаў, а Удальцоў заўжды працаваў з радыкальнай часткай расійскіх камуністаў, для якіх постаць Сталіна амаль сакральная. Не цураецца «Бацькі народаў» і сам Удальцоў. Пра гэты феномен згадвае, напрыклад, расійскі прапагандыст Сяргей Салаўёў. «Калісьці на перадачы я яго (Удальцова) спытаў: «Прыйдзеш да ўлады — расстрэльваць будзеш?» Ён вочы адвёў. Але было відавочна, што расстрэльваць пры Удальцовы будуць», — адзначыў Салаўёў.

Па-другое, Аляксей Навальны, які «прыватызаваў» пратэсты супраць Пуціна, наўрад ці пагодзіцца проста так падзяліцца штурвалам з Удальцовым. Наступствы гэтага могуць быць вельмі драматычныя для дысідэнтаў. Выданне «Новые ведомости» адзначае: «Навальны не захоча аддаваць лідарскія пазіцыі Удальцову, а Сяргей наўрад ці пагодзіцца на другія ролі. У сувязі з гэтым мы станем сведкамі канфлікту паміж двума лідарамі, а пасля пабачым і дэфрагментацыю пратэсту, што, вядома, будзе вітацца пуцінскімі чыноўнікамі».

Прычым, канфрантацыя на прыватным узроўні — яшчэ не самае кепскае. Самае кепскае, калі Удальцоў уступіць з Навальным у адкрыты канфлікт. Такі варыянт будзе азначаць дыскрэдытацыю ўсёй апазіцыі, паколькі без узаемнага зліву кампрамату наўрад ці абыдзецца. Напрыклад, раней жонка Удальцова сцвярджала, што Навальны мае дачыненне да фінансавых махінацый з фондам «балотнай» апазіцыі. У сваю чаргу, узгадваюць эпізод, калі Удальцоў вёў перамовы з людзьмі Саакашвілі, якія абяцалі яму падтрымку расійскіх алігархаў з Лондану. Некаторыя пракрамлёўскія палітолагі нават не хаваюць, што чакаюць менавіта такога развіцця падзей.

Існуе і трэці варыянт. На думку некаторых экспертаў, Удальцоў — чалавек з мінулага, і сітуацыю ён кардынальна не зменіць. «Касцяк таго пакалення, якое зараз ходзіць на акцыі Навальнага, пра яго (Удальцова) нічога не ведае, паколькі былі яшчэ дзецьмі, калі Сяргея «закрылі». Дый памяць тых, хто старэйшы, таксама кароткая. Таму сёння Сяргей Удальцоў — гэта нейкі прывід з мінулага жыцця», — піша «Московский Комсомолец».

Палітычныя перспектывы Удальцова «НЧ» пракаментаваў маскоўскі журналіст **Дзмітрый Кастэнка**:

— На жаль, расійская палітыка — як тэлевізар. Калі ты надоўга з яго знікаеш, то «сыходзіш у тыраж». Пра яго будуць пісаць некаторы час пасля вызвалення, але да ўзроўню Навальнага ён не дарасце. Ва Удальцова няма нават сваёй структуры. У Навальнага ўкладваюцца, і ён ведае, як знайсці тэму і нішу. Сяргею прыгатаваны лёс героя ўчарашніх дзён, на жаль.

Праўда, існуе версія, паводле якой Удальцоў сыходзіць да Зюганава, які, дзякуючы харызматычнаму Удальцову быццам бы збіраецца вярнуць сабе прывабнасць. Аднак у такім выпадку ў асноўным Удальцоў будзе змагацца з канкурэнтамі на левым фланзе. Так ці інакш, амаль усе каментатары пагаджаюцца, што перамены ў Расіі наспелі. Калі ў Сяргея Удальцова не атрымаецца стварыць шырокі апазіцыйны фронт, гісторыя агучыць іншае імя.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Закарыя Куцнашвілі



Дэпутат парламента Грузіі ад урадавай партыі «Грузінская мара» прапанаваў новы незвычайны праект вяртання ў склад Грузіі Абхазіі і Паўднёвай Асецці, якія зараз дэ-факта з'яўляюцца пратэктаратамі Масквы.

Вярнуць рэгіёны пад кантроль Тбілісі, на думку Куцнашвілі, дапаможа праваслаўе. А першым крокам да гэтага павінна стаць генеральная Міжпарламенцкая асамблея праваслаўя, якая пройдзе ў 2019 годзе ў Тбілісі. Увогуле, Міжпарламенцкая асамблея праваслаўя (МАП), што была ўтвораная ў 1993 годзе, паводле статута займаецца «ростам прысутнасці праваслаўя, як агульнага культурнага выяўлення вялікай колькасці еўрапейскіх грамадзян, у фармаванні сучаснай Еўропы». Аднак, на думку грузінскага дэпутата, МАП можа дапамагчы і справе грузінскага дзяржаўнага адзінства. Справа ў тым, што гэтая структура з'яўляецца адзінай міжнароднай арганізацыяй, якая разам з дзяржаўнымі межамі прызнае і абараняе адзінства царкоўных межаў.

Як следства, нават Руская Праваслаўная Царква — сябра МАП — у адрозненне ад расійскага ўраду, прызнае юрысдыкцыю Грузіі над Абхазіяй і Паўднёвай Асеціяй. Такім чынам, як лічыць Куцнашвілі, «калі падчас правядзення Генеральнай асамблеі стварыць новую платформу для вырашэння праблем, што стаяць перад намі на акупаваных тэрыторыях, Масква будзе вымушаная пачаць перамовы».

### Дональд Трамп



Да ўсёй крытыкі на адрас прэзідэнта ЗША на гэтым тыдні дадалася новая падстава. Трампа абвінавацілі ў тым, што ён не хоча прымусіць сваю жонку капаць агарод, а дакладней, так званы «Паўднёвы лужок» — шматок зямлі каля Белага дому.

Прыкладна 10 гадоў таму Мішэль Абама зрабіла там агарод, які стаў адным з сімвалаў адміністрацыі Абамы. Першая лэдзі асабіста перад камерамі СМІ капала і саджала расліны — як прыклад для дзяцей, якія маюць праблемы з вагой праз тое, што мала займаюцца фізічнай працай. Таксама Мішэль за кошт «Паўднёвага лужку» заклікала спажываць вегетарыянскія культуры, каб скараціць у дзіцячым меню спажыванне мяса.

Пасля прыбыцця ў Белы Дом сям'і Трампа на агародзе Белага дому ўсё кардынальна змянілася. У адрозненне ад Мішэль Абамы, новая гаспадыня Белага дома Івонка Трамп на агародзе капацца не збіраецца, і ўвогуле абмяжоўваецца выключна пратакольнымі мерапрыемствамі. Не дапамог прымусіць яе ўзяць рыдлёўку і граблі і незвычайны прыём садоўнікаў Белага дому. Каб прыцягнуць увагу першай лэдзі, тыя пасадзілі асаблівы гатунак цыбулі, які разводзяць у Славеніі, на гістарычнай радзіме Івонкі. Рэакцыі з боку Трампаў усё роўна не было.

Праўда, нельга выключыць, што Трампы свядома ігнаруюць агарод на «Паўднёвым лужку». На днях прэзідэнт ЗША падпісаў закон, які паніжае стандарты амерыканскай школьнай ежы.

### Ігар Каламойскі



Украінскі алігарх, які фінансуе шмат палітычных праектаў, у снежні пагадзіўся на нацыяналізацыю сваёй банкаўскай установы «Прыватбанк», і на нейкі час быццам бы знік з украінскіх навінаў. Аднак зараз Беня (мянушка алігарха) — зноў медыйная персона, прычым, у незвычайнай постаці галоўнага апазіцыянера.

Усё праз тое, што нацыяналізаваны «Прыватбанк» апынуўся далёка не квітнеючай структурай. Каб захаваць установу, Украіна павінна ўліць у «Прыватбанк» каля 1,5 мільярда долараў. Паводле дамовы пра нацыяналізацыю, частку той сумы павінен выкласці Беня, аднак той плаціць асабліва не збіраецца. Магчыма, раней праблему ратавання банку планавалася вырашаць інакш.

У любым выпадку, 4 ліпеня Генпракуратура Украіны адкрыла справу супраць Каламойскага аб даведзенні «Прыватбанку» да неплацежаздольнасці. На гэта СМІ, якія належаць алігарху, адказалі прапагандысцкім залпам па Парашэнку, якога малююць як галоўнага бенефецыярыя вайны. Калі верыць палітолагам, наўрад ці ўсё абмяжуецца піярам. Каламойскі быццам бы плануе інвестыцыі ў апазіцыю, і перш за ўсё ў структуры Юліі Цімашэнка.

Ёсць прагноз, што асноўны ўдар па Парашэнку плануецца падчас хуткага абмеркавання законапраектаў па адной з рэформаў, якія патрабуе прыняць МВФ. Калі законапраекты будуць сарваныя, то Украіна не толькі не атрымае вельмі важных траншы, але і сутыкнецца з урадавым крызісам. Між тым, некаторыя кіеўскія медыя пішуць, што Беня, каб напоўніцу адпомсціць Парашэнку, нават пачаў шукаць кантакты ў Крамлі.

# Загадкавыя лёсы беларускіх прыгажуняў



Сяргей ЧЫГРЫН

**У шматпакутным і багатым на гістарычныя падзеі XX стагоддзі мы часцей згадваем мужчын. Але нямала было і прыгожых ды таленавітых беларусак. Шмат гадоў шукаю пра іх звесткі, але знойдзена пакуль небагата.**

Гэтыя дзяўчаты вельмі любілі Беларусь, знешне былі прывабныя, лёс некаторых з іх быў звязаны з жыццём і творчасцю беларускіх паэтаў, кампазітараў, музыкаў, артыстаў. Але ад некаторых не засталося нават фотаздымкаў. Дзе гэтыя нашы прыгажуні? Як склаўся іх лёс? А раптам адгукнецца нехта са сваякоў ці з тых людзей, хто пра іх штосьці чуў?

## Яўгенія Чарняўская-Орса

«Слаўная спявачка нашай Бацькаўшчыны» — так у 1930-х гадах называлі маладую беларускую спявачку Яўгенію Чарняўскую-Орса.

Яўгенія была родам з Лідчыны (па іншых звестках, з Навагрудчыны). У сярэдзіне 1930-х вучылася ў Варшаўскай кансерваторыі. Навучанне і жыццё ў Варшаве маладая студэнтка і спявачка актыўна сумяшчала з беларускім рухам у польскай сталіцы. Без яе ўдзелу не абыходзілася ні адна беларуская вечарына, сустрэча, прэзентацыя. У Варшаве Яўгенію Чарняўскую ведалі не толькі беларусы, але і ўкраінцы, палякі, літоўцы: усіх яна зачароўвала сваёй прыгажосцю і голасам.

11 снежня 1937 года ў Варшаве ўкраінская студэнцкая грамада ладзіла вечарыну ў гонар сваёй нацыянальнай паэткі Лесі Украінкі. На мерапрыемства запрасілі і Яўгенію Чарняўскую-Орса. Спявачка выканала некалькі ўкраінскіх песень і сваім звонкім мілагучным голасам, як пісаў часопіс «Шлях моладзі», «здабыла сабе гучныя воплескі шматлікіх слухачоў».

Запрашалі нашу спявачку ўкраінцы Варшавы і на іншыя імпрэзы. Напрыклад, 6 снежня 1938 года яна спявала песні на вечары ўкраінскай паэзіі. А пасля выканання песні «Салавейка» Яўгенію некалькі разоў выклікалі «на біс». Заходнебеларуская прэса пісала, што «воплескам не было канца. І не дзіва: голас спявачкі прыгожы, тэхніка адпаведная, інтэрпрэтацыя высокакультурная, глыбокая, шчыра адчута, сцісла гарманізуецца з створанай кампазіцыяй. Выклікае вялікую ўвагу дыкцыя пясняркі. Чарняўская агулам выканала сваё заданне вельмі добра. Можна спадзявацца, што Чарняўская будзе вялікай спявачкай нашай Бацькаўшчыны».

6 лютага 1937 года ў Варшаве ў зале імя Карловіча мясцовай філармоніі адбыўся беларускі канцэрт-вечарына. У невялікую залу, разлічаную толькі на 250 месцаў, уціснулася больш за 400 чалавек. Многія не змаглі ўжо купіць білетаў.

Канцэрт пачаўся каля 22 гадзін. Першай выступіла беларуская спявачка Яўгенія Чарняўская-Орса. Яна праспявала песні «Адна, і зноў адна», «А за ліхімі ды марозамі» і «Маладую Беларусь». Музыку да гэтых песень напісаў кампазітар Канстанцін Галкоўскі. Спявала Яўгенія і дуэтам з А.Панько. Пра гэта пісаў у часопісе «Шлях моладзі» Пятро Ластаўка. Паведамляў усё той жа Пятро Ластаўка і пра іншыя выступленні Яўгеніі Чарняўскай-Орса.

4 сакавіка 1938 года Яўгенію Чарняўскую-Орса на канцэрт у Вільню запрасіў Рыгор Шырма і прапанаваў ёй выступіць разам з ягоным хорам. Канцэрт адбыўся ў гасціннай універсітэцкай зале Снядэцкіх. У праграме канцэрта так і было запісана, што адбудзецца канцэрт беларускага хору Рыгора Шырмы і маладой беларускай спявачкі Яўгеніі Чарняўскай-Орса. На гэтым канцэрце быў Максім Танк. У сваіх «Лістках календара» ён пісаў: «Быў на канцэрце студэнцкага хору Рыгора Шырмы. У другой частцы канцэрта выступала маладая і вельмі сімпатычная спявачка А.Орса-Чарняўская (маецца на ўвазе Аўгіння. — С.Ч.). Адкуль яе выкапаў дзядзька Рыгор? І не толькі выкапаў, а і ўзбагаціў яе рэпертуар беларускімі народнымі песнямі. Яна выканала некалькі новых песняў, і асабліва ўдала — «Паднімайся з нізін, сакаліна сям'я...». І яе праводзілі бурнымі апладысментамі; студэнты падарылі ёй прыгожы букет жывых кветак і сэрца кірмашнага «Казюка».

Максім Танк не мог не пазнаёміцца з прыгожай беларускай спявачкай. Іх разам нават сфатаграфаваў Янка Шутовіч. «Сёння (маецца на ўвазе 5 чэрвеня 1938 года. — С.Ч.) Я.Шутовіч перадаў мне некалькі фатаграфій: адна — любільская — зробленая на казюкоўскім фэсце, дзе мы зняліся са спявачкай А.Чарняўскай», — прыгадвае ў «Лістках календара» Максім Танк. На жаль, не ўдалося знайсці гэты фотаздымак.

Прыехаўшы ў Варшаву, Яўгенія Чарняўская-Орса разам з сябрамі мясцовага Асветнага таварыства беларусаў пачала збіраць фінансавыя сродкі на кнігу «Пад мачтай» Максіма Танка. Спявачка сабрала і перадала Максіму Танку каля 200 злотых. А рэштку грошай, неабходных на выданне зборніка, даў яшчэ адзін сябра «Таварыства прыхільнікаў навукі». І 20 чэрвеня 1938 года зборнік вершаў «Пад мачтай» Максіма Танка выйшаў з друку.

Пасля заканчэння Варшаўскай кансерваторыі сляды беларускай спявачкі губляюцца. Альбо яна засталася ў Польшчы, альбо выехала далёка на Захад, альбо вярнулася на Радзіму.




## Стэфа Лыскавец

У 1943 годзе «Беларуская газета» пісала пра тое, што драматычны гурт Мінскага беларускага тэатра ў колькасці 37 асобаў распачаў гастролі ў Слоніме. Была там і эстрадная група. Яна складалася з гарбаценькага віртуоза-акардэаніста Васіля Савіцкага, балалаечніка Змітра Захара і прыгожай спявачкі-бландыначкі Стэфы Лыскавец. Пасля Слоніма



артысты выступалі ў Вілейцы і ў іншых гарадах Беларусі. Разам са Стэфай Лыскавец выступала і Барбара Вержбаловіч — беларуская оперная спявачка, якая пасля 1944 года жыла ў эміграцыі.

Але найбольшыя апладысменты пасля выступлення зрывала менавіта прыгожая Стэфа Лыскавец, якая хораша выконвала беларускія народныя песні. На канцэрце ў Слоніме ў Народным доме прысутнічалі і слонімцы, і немцы. На канцэрт нават асабіста прыйшоў гэбітскамісар са сваёй світай. Спявачка выканала спачатку песню «Вой, ты хлопец кучаравы», а потым — «Lili Marleen», пасля якой яе доўга не адпускалі са сцэны. Дарэчы, песня «Lili Marleen» была на той час даволі папулярнай сярод нямецкіх салдат. Яе спявалі на ўсіх канцэртных пляцоўках Другой сусветнай вайны. Песню выконвалі папулярныя артысты Лале Андэрсен і Марлен Дзітрых. А тут раптам Стэфа Лыскавец сваім выкананнем проста ўсіх зачаравала.

Пасля канцэрта слонімскія сябры Самапомачы (Беларуская народная самапомач (БНС) — грамадская нацыянальная арганізацыя, якая дзейнічала ва ўмовах нацысцкай акупацыі ў Генеральнай акрузе «Беларусь» падчас Другой сусветнай вайны. — С.Ч.) запрасілі мінскіх артыстаў на вячэру ў сваю сталоўку, дзе гасцей можна было спакойна і добра пачаставаць. Сярод прысутных Стэфа Лыскавец вылучалася яркай сімпатычнасцю, каля яе круціліся «донжуаны». За сталом была не толькі гарбатка з салодкімі ласункамі, але і каўбаса з паляндвічкаю, спіртныя напоі. Двое «донжуанаў» падпаілі артыстку. І Стэфа, гледзячы на аднаго гітлераўскага афіцэра, на ўсю сталоўку гучна запыталася, чаму ён не вядзе свае войска ў лес да партызан.

Нямецкага вайскоўца гэта рэпліка збянтэжыла, а для Стэфы Лыскавец аказалася трагічнай. Яе арыштавалі і на два тыдні пасадзілі ў слонімскую турму. Толькі дзякуючы сябрам Беларускай самапомачы, Стэфу ўдалося вызваліць. Яна хутка вярнулася ў Мінск. Але хадзілі чуткі, што аднойчы на дзяўчыну наехаў нямецкі грузавік і забіў яе на месцы. Які на самай справе лёс спявачкі Стэфы Лыскавец — застаецца загадкай. Невядома таксама, які яе быў жыццёвы шлях, дзе яна нарадзілася, дзе вучылася...

## Вера Жгут

Шмат гадоў шукаю звесткі пра беларускага паэта, драматурга, публіцыста, выдаўца Тодара Лебяду (Пятра Шырокава). Ён двойчы быў рэпрэсаваны: у 1936-м — на 5 гадоў і ў 1947 годзе — на 25 гадоў. Беларус прайшоў усе сталінскія лагеры і двойчы вяртаўся дамоў.

У 1936 годзе Тодар Лебяда скасаваў шлюб з Басяй Цыпінай. А ў 1942 годзе ён ажаніўся з Верай Жгут — артысткай Віцебскага драматычнага тэатру. У пачатку 1990-х гадоў я напісаў ліст народнай артыстцы Беларусі Зінаідзе Канапельцы і запытаўся: ці памятае і ці ведала яна артыстку Веру Жгут? Зінаіда Ігнатаўна хутка паведаміла: «Пра артыстку Веру Жгут я ніколі нічога не чула, хоць у Віцебску пражыла і адпрацавала ў тэатры амаль усё жыццё. І калі б яна хоць калі са мной працавала, то я б яе памятала, забыцца не змагла б ніколі...»

Зімой 1992 года я звярнуўся з просьбай у КДБ па Віцебскай вобласці даць якія-небудзь звесткі пра Веру Жгут. 3 лютага 1992 года прыйшоў адказ. У ім паведамлялася, што «Вера Жгут нарадзілася ў 1917 годзе ў Віцебску. У 1942 годзе яна выйшла замуж за Шырокава Пятра. У 1947 годзе Вера Жгут пражывала па адрасе: Літоўская ССР, ст. Лентварыс, Кандуктарская калонія, дом № 2».

Дачка Тодара Лебяды Ала Пятроўна Козел 29 мая 1994 года на маё пытанне пра Веру Жгут напісала: «Вы пытаецеся ў мяне пра Веру Жгут. Так, я памятаю яе. Яна была актрысай Віцебскага драмтэатра. Яна ў нас ніколі не жыла, хаця я ведаю, што была з бацькам у блізкіх адносінах. Разам яны паехалі ў Прусію пасля вайны. Па дарозе ў цягніку ў іх нарадзіўся сын, якога ў дарозе ахрысцілі Васілём. Жыў ён вельмі мала. Пазней, як вярталіся з Прусіі на Радзіму, бацька мой з Верай развіталіся на граніцы. Бацька — здаўся ўладам, а яна вярнулася да сваёй першай сям'і. Казалі, што ў яе муж быў афіцэрам Чырвонай Арміі. У гэты час ён прыйшоў з вайны, у іх быў сын Вадзім на два гады маладзейшы за мяне...»

У Прусіі Вера Жгут і Тодар Лебяда пахавалі маленькага сына. У пісьме да Майсея Сяднёва (копія ліста ў мяне захоўваецца) Тодар Лебяда пісаў: «Учора я пахаваў сваё дзіця. Пасля ўсяго вельмі дрэнны настрой. Мы з Валодзькам разабралі наш ложак і зрабілі майму сыну маленькую дамавіну. Цвікоў нацягалі са сцен і з старых дошак. Яшчэ раз просім цябе — пішы нам. Мы будзем пісаць як найчасцей. Бывай здароў! Твае Пятрок і Валодзя Клішэвіч...»

Як склаўся лёс Веры Жгут пасля расстання з Тодарам Лебядой? Ці жыве яна і дзе — невядома.


«МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА»

N 3.

MUŽYCKAJA PRAUDA.

Dziaciuki!

Żywuczy pad rądom maskouskim kożny wiedaje szto jon nas abdziraje i hłumić; no mało chto dobre padumau czy można ad jeho spadziewaci sia czeho leń dla nas, albo dla dzieciej naszych. Ja Dziaciuki lepsz znajuczy ad was uzdumau napisaci pismo kab nie mahli tumanić rozumu waszaho. Dla toho czytajcie z uwahaju, a jak pierеczytajcie dawaicie da druhoj wioski

# 155 гадоў беларускай дэмакратычнай прэсы. «Мужыцкая праўда»

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Выданне, сем нумароў якога ляжаць у падмурку ўсёй беларускай дэмакратычнай прэсы, пачало распаўсюджвацца 155 гадоў таму. «Мужыцкую праўду» рэдагаваў Кастусь Каліноўскі, 180-годдзе з дня нараджэння якога будзе адзначацца ў 2018 годзе.**

### Не лічылі шкодным, бо лацінкай

У першыя месяцы з'яўлення «Мужыцкай праўды» царская паліцыя амаль не звяртала на яе ўвагі — нават нягледзячы на тое, што нумары траплялі ў рукі прыставаў. З-за лацінкі яна прыпісвалася да польскіх нелегальных выданняў і таму лічылася, што газета не выклікае пагрозы ў асяродку сялянства. Але напрыканцы жніўня 1862 года з міністэрства ўнутраных спраў Расійскай Імперыі да гродзенскага губернатара Галера быў накіраваны загад: неадкладна выявіць крыніцу новага нелегальнага выдання. Падставаю да таго стала «мужыцкая» мова, на якой была надрукавана «Мужыцкая праўда» і якая выкарыстоўвалася вясковым насельніцтвам.

Выбар слова прадвызначыў папулярнасць «Мужыцкай праўды» ў асяродку беларускага сялянства. Каліноўскі і яго паплечнікі імкнуліся паказаць, што вясковец — сапраўдны гаспадар на сваёй зямлі. Выданне разбурала стэрэатып пра тое, што селянін варты толькі цяжкай працы, таму што *«цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці»*.

### «Дурны маніхвэст»

Першы нумар «Мужыцкай праўды» быў па-сапраўднаму праграмным, пачынаючы са звароту «Дзецюкі!» і заканчваючы подпісам «Яська-гаспадар з-пад Вільні». Паміж імі сканцэнтраваны моцны сацыяльны запал, якога бракуе наступным нумарам, і ў адносінах якога ад нумару да нумару паступова змяняецца націск.

Нумар абрынуўся крытыкай на маніфест аб адмене прыгоннага права 1861 года, які так і не прынёс селяніну жаданай волі, увасобленай ва ўласнасці на зямлю. У той жа час «Мужыцкая праўда» папярэджвае пра марнасць сялянскіх спадзяванняў на істотныя змены *«чэраз рок»*, гэта значыць у 1863 годзе, да якога, пакуль уводзіліся ўстаўныя граматы, захоўвалася ўлада памешчыкаў над сялянамі, і калі, згодна чуткам, павінен быць дараваны «другі маніфест». Галоўны аргумент супраць: *«Калі праз шэсць лет нічога не зрабілі»*, то няма больш на што разлічваць, акрамя чарговага ашуканства. Маніфест быў накіраваны не на дараванне волі, а на стварэнне за сялянскія грошы канцылярый, судоў і пісараў: *«Як бы гэта не ўсё роўна браць у сраку чы з судом чы без суда»*, дзе абразлівы выраз характарызуе атрыманае пасля ўвядзення рэформы 1861 года права валаснога суда прымяняць у адносінах сялян, нароўні з арыштам або грашовым спагнаннем, фізічнае пакаранне 20 ударамі розгаў.




Галоўнымі ворагамі ў «Мужыцкай праўдзе» названыя *«маскалі, чыноўнікі і многа паноў»*. «Дурны» ж маніфест — гэта справа *«цара з сенатам і з панамі»*. У іншым месцы падкрэсліваецца, што *«ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацца, бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства нашага хочуць»*.

Радыкалізм першага нумару «Мужыцкай праўды», які сваім з'яўленнем напалохаў землеўладальнікаў, быў відавочны, паколькі менавіта «паны» падкрэслена названыя тымі, хто перашкаджае сялянскай волі. Нездарма абшарнікі бачылі мэтай распаўсюджваемага выдання ні што іншае, як «адно толькі крывавая помста і злачынствы, якія асвячаліся і абвяшчаліся ў імя гэтай помсты».

Сябрамі сялянаў у «Мужыцкай праўдзе» названыя *«людзі і з мужыкоў разумнейшыя, і з панскага роду, і з местачковых, што хочуць нашай свабоды»*. Асабліва важна гучыць згадка пра людзей «з панскага роду», да якіх належаў сам Каліноўскі і яго паплечнікі, выдаўцы газеты — Валерый Урублеўскі, Фелікс Ражанскі і Станіслаў Сангін. Гэтае абасабленне яшчэ раз пацвярджае той факт, што сярод саміх паноў у мужыкоў няма сяброў. Але «панам» усё ж пакідаўся шанец зрабіць усё *«па свентай справядлівасці»* і далучыцца да мужыкоў.

У першым нумары, нягледзячы на подпіс «Яська-гаспадар з-пад Вільні», няма той асабовасці, моцнага «Я», якім прасякнутыя наступныя нумары. Тут толькі «мы, мужыкі, браты вашыя», за выключэннем апошняга сказа. Такім прыёмам узмацняецца націск у адказы на галоўнае пытанне: у чым сіла і праўда? У адзінстве, праз якое толькі самі мужыкі могуць заваяваць вольнасць: *«Мужык, пакуль здужае трымаці касу і сакеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе»*, што пераклікаецца з вядомым выразам Каліноўскага *«пра сякеру над калыскай шляхецкага дзіцяці»*.

**«Мужыцкая праўда» не пазбаўленая памылак. Але што ў яе не адняць — гэта імкненне данесці думку, што лёс Бацькаўшчыны залежыць толькі ад жадання народу дабівацца вольнасці, свабоды, шчасця**

### У імя справядлівасці

Значэнне сямі нумароў «Мужыцкай праўды», якія пабачылі свет з ліпеня 1862 года па красавік 1863 года, да сённяшняга часу пераацаніць немагчыма. Кожны з іх прысвечаны пэўнай тэме, сярод якіх махлярства маніфеста аб адмене прыгоннага права, гісторыя ўзнікнення паншчыны, разуменне таго, што такое вольнасць і сапраўдны *«ронд»* (з яго вечным: *«Не народ зроблены для ронду, а ронд для народу»)*, апісанне ганебнасці рэкрутчыны, і нават спроба патлумачыць сялянам, што «праўдзівая вера дзядоў і прадзедаў» — уніяцтва.

У «Мужыцкай праўдзе» ідэалізаваліся часы Рэчы Паспалітай, прыкладам найлепшага дзяржаўнага кіравання называліся грамадска-палітычныя сістэмы *«у Француза, чы ў Англічаніна»*, а галоўнымі ворагамі Радзімы пазначаныя *«Немец і Маскаль»*.

Газета звярталася да шматлікіх народных стэрэатыпаў, у тым ліку да ілюзій, што адмена прыгону адбылася пад замежным ціскам. Нават у час паўстання 1863–1864 года ўлады адзначалі: сялянства ў Беларусі спадзявалася, што *«Француз прыйдзе»*. У той жа час Каліноўскі і яго паплечнікі заўважылі рысу народа, якая перашкаджала яму скарыстацца дапамогай сапраўдных яго абаронцаў: *«Таму, хто нам добра думае, мы выганяем, таму, хто нам ліха робіць, мы памагаем»*.

«Мужыцкая праўда» не пазбаўленая памылак — і ў трактоўцы гістарычных фактаў, і ў разуменні рэчаіснасці. Але што ў яе не адняць — гэта імкненне данесці думку, што лёс Бацькаўшчыны залежыць толькі ад жадання народу дабівацца вольнасці, свабоды, шчасця.

### Завучвалі на памяць і пераказвалі

З пачаткам паўстання ў 1863 годзе расійскія ўлады «Мужыцкую праўду» пачалі разглядаць як нашмат небяспечнейшую за тыя адзінкавыя атрады, якія пачалі ўтварацца ў пушчах. Нездарма 21 студзеня адзін з удзельнікаў скасавання царкоўнай уніі ў 1839 годзе, полацка-віцебскі архіепіскап Васілій пісаў у лісце да обер-пракурора «Святейшага сінода» генерала Ахматава пра хуткія тэмпы пашырэння нелегальнага выдання: «Я атрымліваю пэўныя звесткі, што род газеты, якая выдаецца ў Вільні рэвалюцыйным таварыствам на беларускай мове, — «Мужыцкая праўда», мэта якой усхваляць просты народ супраць урада рускага і схіліць да агульнай разні, — у вялікім мностве пашыраецца ў Дзісненскім павеце Віленскай губерні, сумежным з Дрысенскім і Лепельскім Віцебскай губерні, і, зразумела, распаўсюдзіцца хутка ў гэтых паветах пры нахабным садзеянні прапагандыстаў, якіх нямала хаваецца ў тутэйшай губерні».

Газета першапачаткова распаўсюджвалася шляхам падкідання яе нумароў падчас руху па дарогах або ноччу па палетках, у чым прымаў удзел і Валеры Урублеўскі, і Канстанцін Каліноўскі. Але праблемаю з'явілася неадукаванасць сялянаў: яны не ўмелі чытаць, і звярталіся па дапамогу да пісарчукоў, святароў, і нават паноў. У архівах багата дакументаў пра тое, як выданне якраз пасля такіх просьбаў трапляла ў рукі паліцыі.

Але не бракавала выпадкаў, калі сялянам выданне ўсё ж чыталася, і ў такім разе тэкст «Мужыцкай праўды» завучваўся напамяць, пераказваўся з хаты ў хату, распаўсюджваўся ад вёскі да вёскі. Займаліся гэтым і прадстаўнікі паўстанцкіх арганізацый, якія ў чаканні будучага паўстання ў 1862 годзе актыўна ўладкоўваліся на пасады сельскіх настаўнікаў і валасных пісарчукоў, якія, згодна аднаму з аўтараў газеты і паплечніку Каліноўскага Феліксу Ражаньскаму, «працуючы з энергіяй і самаахвярнасцю, разгарнулі сваю карысную дзейнасць».

Запісанае роднае слова ўжо адным сваім фактам выклікала ў сялянах водгук. Аднак яно было скіравана, перш за ўсё на моладзь, гатовую да абароны ўласных правоў. Нездарма адзін з распаўсюджвальнікаў выдання, батрак з вёскі Вайнёўцы Сакольскага павета Казімір Станкевіч чытаў яе іншым «скрытна ад старых». Сяляне верылі «Мужыцкай праўдзе», аб чым сведчаць словы іншага селяніна, 44-гадовага Мацея Цюхны, пакаранага смерцю за распаўсюджванне газеты: «Прачытай — і будзеш усё ведаць».

# Чаго асцерагацца і што шукаць у купальскую ноч

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Купалле — беларускае традыцыйнае свята, якое мае старажытныя карані. Нашы продкі да прыняцця хрысціянства ў 988 годзе вызначалі час для святаў па руху ў першую чаргу Сонца і Месяца. Першапачаткова Купалле святкавалася ў самую кароткую ноч у годзе і прымяркоўвалася да летняга сонцастаяння.**

З прыходам на беларускія землі хрысціянства на традыцыйны народны каляндар наклаўся царкоўны. Царква імкнулася выкараніць старыя вераванні: на месцы паганскіх капішчаў будаваліся храмы, а да дзён традыцыйных святкаванняў прымяркоўваліся новыя, хрысціянскія, святы. За час тысячагадовага суіснавання хрысціянскія і дахрысціянскія элементы перамяшаліся. Гэта бачна нават у народнай назве свята: «Іван Купала».

Католікі святкуюць Янаў дзень 24 чэрвеня, а праваслаўныя — дзень Іаана Хрысціцеля 7 ліпеня. Праводзяцца царкоўныя службы, у некаторых вёсках асвячаюць палі і назбіраныя зёлкі. Уласна ж купальскія святкаванні прыпадаюць на вечар ці, дакладней, ноч перад царкоўным святам.



Фота Мар'і Амельяновіч

## З вогнішчам ці без?

Назва свята паходзіць ад старажытнага індаеўрапейскага кораня *kup- (кіпець, палымяна прагнуць). Неабходныя элементы Купалля — вялікае вогнішча, якое складалі і палілі ўсёй вёскай, купанне ў рацэ ці возеры, маніпуляцыі з кветкамі (плялі вяночкі, свяцілі, сушылі для лекавання на працягу года). У момант росквіту плодных сіл зямлі набывалі моц і зёлкі, якія збіралі ў гэты час усе — ад малога да старога. На працягу года купальскія зёлкі выкарыстоўвалі ад розных няшчасцяў і хвароб.

У некаторых рэгіёнах Беларусі сустракаюцца звесткі, што замест вогнішча выкарыстоўвалі надраную горку крапівы, што сваімі ўласцівасцямі (джаліць, пячэ) сімвалічна замяняла агонь. Святкаваць маглі не толькі ля вады, але і на ўзвышшы, на скрыжаванні дарог — месцах, што ў народнай свядомасці валодалі таямнічай сілай.

Раней для купальскага вогнішча ўсёй вёскай зносілі старыя рэчы. Паселішчы маглі спаборнічаць між сабой — у каго будзе большы агонь і даўжэй гарэць. Рэшткі гэтага ўяўлення захаваліся і сёння, калі для купальскага вогнішча рыхтуюць старыя гумовыя шыны, якія добра і доўга гараць. Купальскае вогнішча распальвалі жывым агнём, які здабывалі шляхам трэння. Сярод вогнішча мог знаходзіцца шост з колам наверсе, лялька. Ляльку рабілі з саломы, у жаночай іпастасі, маглі насіць па вёсцы, тапіць, замест таго, каб спальваць. Калі вогнішча прагарае, шост з колам падае. Лічыцца, у чый бок «пакажа» кола, у таго да наступнага Купалля здарыцца ў жыцці нешта істотнае. Потым пачынаюцца скокі праз вогнішча. Калі пара скача разам, то глядзяць, ці не разнялі яны рук: калі не, то, мабыць, будуць разам.

## Варажы мне, варажы

Пра будучы лёс можна было даведацца і варажбой. Вось некалькі спосабаў:

На Купалле дзяўчаты пускаюць вянкі па вадзе: куды паплыве — у той бок замуж ісці.

Ірвуць нераспушчаныя кветкі і ўторкваюць у шчыліны ў хаце. Калі за ноч распусцяцца — дзяўчына выйдзе замуж ці спраўдзіцца іншае жаданне. Пасля вайны так варажылі жонкі, ці прыйдуць іх мужы з вайны.

Чый вянок хутчэй згарыць на купальскім вогнішчы, тая дзяўчына хутчэй выйдзе замуж. Хлопец выхоплівае з агню вянок той дзяўчыны, што падабаецца, спадзеючыся, што яна пакахае яго і выйдзе замуж.

Увечары трэба сарваць зубамі трыпутнік і легчы з ім спаць, ні з кім не гаворачы. Прысніцца, з кім ажэнішся.

Узяць пяску са скрыжавання дарог, пакласці пад падушку — прысніцца нешта істотнае.

## Сонейка, сонца

Істотным момантам у святкаванні Купалля з'яўляецца сустрэча сонца. Нават у свядомасці сучаснай вясковай моладзі застаецца неабходнасць «гуляць да раніцы». Узыходзячы пасля купальскай ночы, сонца быццам бы «грае». Кажуць, што «гранне», «купанне» сонца бачаць толькі шчаслівыя людзі. Распавядаюць, што яно некалькі разоў паказваецца з-за рысы гарызонту і хаваецца назад, распадаецца на некалькі вогненных колаў і злучаецца, вакол



Фота denizion.livejournal.com

яго ствараецца вясёлкавае ззянне, яно пераліваецца рознымі колерамі...

На Палаччыне ўзыход сонца сустракалі адмысловым абрадам «барана», калі ўдзельніцы адначасова спявалі розныя песні каляндарнага і сямейнага цыклаў, «каб у наступным годзе ўсё было».

## Папараць-кветка

У Купальскую ноч маглі адбывацца розныя здарэнні. Бадай, найбольш вядомым застаецца паданне аб папараць-кветцы, што цвіце толькі ў Купальскую ноч, да таго ж адно імгненне. Хто яе сарве, будзе мець усё, што пажадае, бачыць скарбы, схаваныя ў зямлі, можа стаць нябачным, адамкнуць і замкнуць любы замок.

Папараць-кветку ахоўвае нячыстая сіла, таму звычайны чалавек, шукаючы яе, можа памерці са страху. Затое збор кветак папараці па сілах Купальскаму дзядку, які кладзе іх у кошык. Калі сустрэнеш дзядка, рассцялі перад ім белы абрус, і ён кіне туды адну кветку. Тады трэба разрэзаць скуру на правай далоні і схаваць кветку туды, каб нячысцік (чорт) не дастаў.

У купальскую ноч выходзяць на паверхню закапаныя скарбы, «купаюцца і сушацца». Іх ахоўвае нячыстая сіла, адводзіць чалавеку вочы, таму завалодаць багаццем, не маючы папараць-кветкі, складана.

Ёсць паданне, што аднаму селяніну папараць-кветка трапіла ў лапаць, і ён стаў бачыць месцы, дзе закапаныя скарбы. Але тут з'явілася вядзьмарка і прапанавала яму новыя боты. Для селяніна, які ўсё жыццё прахадзіў у лапцях, боты былі вельмі дарагім абуткам, і прапанова падалася яму выгоднай. Не ведаючы, што ў лапцях у яго папараць-кветка, селянін аддаў стары абутак вядзьмарцы і так упусціў сваё шчасце.

Бываюць са скрабамі і іншыя здарэнні. Аднаму мужыку ў купальскую ноч прыснілася, што ён знойдзе грошы на мосце. Ранкам ён пайшоў іх шукаць, але не знайшоў. Каля таго моста жыў млынар, мужык зайшоў да яго ў госці і ўсё распавёў. Млынар адказаў, што яму таксама сніўся сон, быццам бы ў гэтага мужыка схаваны скарб пад печкай. Тады мужык вярнуўся дадому і знайшоў грошы.

Зрэдку сустракаюцца згадкі пра «арэхава дрэва», што цвіце адначасова з папараццю. Трэба сарваць арэхаву кветку і ісці туды, куды яна будзе нахіляцца, каб знайсці скарб.

Калі не пашчасціла сарваць рэдкія кветкі, можна паспрабаваць на досвітку выйсці ў поле, легчы на траву і глядзець, ці не выходзіць дзе з зямлі пара слупам: у такім месцы закапаны скарб.

## Свята вядзьмарак

У Купальскую ноч асабліва небяспечны разгул вядзьмарак. Яны спрабуюць забраць малако ў кароў: збіраюць на чужых палях расу. Малако робіцца вадкім ці памяншаецца надой. Тлумачачы сувязь між з'явамі, сяляне казалі, што раса — гэта «сок зямлі», і на Купалле яна «малочная». Вядзьмаркі могуць зашкодзіць не толькі каровам, але і жыту: зрабіць залом ці проста сарваць некалькі каласкоў — гэта пагражае неўраджаем. Таму пільныя гаспадары не спалі цэлую ноч, ахоўваючы свае палеткі ад вядзьмарак. Дадатковым сродкам засцярогі было ўторкванне зёлак (асабліва крапівы і палыну) пад страху хлява.

Лічылася, што коней у Купальскую ноч вядзьмаркі могуць «пазычыць» для паездкі на штогадовы Купальскі шабаш. Ён быццам бы праходзіў на Лысай гары ў Кіеве. Таму коней не пакідалі на начны выпас, заганялі ў стойлы. Але і там вядзьмаркі маглі дабрацца да сваіх ахвяр, таму над уваходам у хлеў ставілі свечку, асвечаную на Грамніцы ці ў Чысты чацвер. Калі ж коней усё ж пакідалі на полі, то прасілі пастухоў не рабіць вогнішча, каб на яго не зляталіся чараўніцы.

Таксама ў купальскую ноч асцерагаліся пераганяць жывёлу праз межы між палямі розных вёсак: бо мяжа — гэта небяспечнае месца, дзе можна лёгка сустрэць вядзьмарку.

Лічылася, што з Купалля варта пачынаць нарыхтоўваць траву жывёле на зіму. Самыя дбайныя гаспадары рабілі некалькі пракосаў ужо ўначы.

З Купаллем звязана шмат народных міфапаэтычных уяўленняў, некаторыя з якіх, нягледзячы на трансфармацыю на працягу стагоддзяў, жывыя і зараз.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №637

Падпісана да друку 07.07.2017. 8.00.
Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.